23 жніўня 2019 | № 31 (642)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Бог адзін. Толькі чаму Ён рускі?** Стар. 12





# Папулізм як універсум



Таццяна ШАПУЦЬКА

**Гістарычная, як яе назваў Аляксандр Лукашэнка, нарада кіраўніка дзяржавы і праваахоўнікаў насамрэч апынулася чарговай банальнасцю. Усё сказанае правадыром добра вядомае і звычайным грамадзянам, і тым самым сілавікам, якія ўважліва слухалі ды занатоўвалі кожнае слоўца свайго лідара. Дык нашто ж тады гэты публічны разгром?**



**Прыгожыя словы казаць нескладана, а вось навесці парадак — амаль неверагодна**

«Мы сабраліся не для таго, каб адсправаздачыцца адзін перад адным, а я — сказаць прыгожыя словы перад грамадскасцю. Нас будуць вінаваціць, што выбары ды іншае. Справа абсалютна не ў выбарах», — абвясціў Лукашэнка. «Тыя, хто пасняшаў тут убачыць нейкую піяр-кампанію, проста недаацэньваюць сітуацыю і не ведаюць нашага кіраўніка», — падтрымала яго верная прэс-сакратарка Наталля Эйсмант. Але, як вядома, хто куры краў, у таго і рукі трасуцца. Менавіта для гэтага — для піяру перад новай прэзідэнцкай выбарчай кампаніяй — і прымусілі трэсціся на камеры сівыя ды не вельмі галовы праваахоўнікаў.

Калі хто не згодны, дык можна паразважаць ад адваротнага: для чаго іншага магла быць задуманая гэта нарада? Напрыклад, каб аднавіць справядлівасць. Але ж не, гэты варыянт адкідваем адразу: ва ўладзе сядзяць не настолькі высакародныя асобы, што будуць перажываць з-за нейкай там справядлівасці ды, крый Божа, шукаць непатрэбную ім праўду. Дый нарадаў для гэтага праводзіць не трэба — у кіраўніка дзяржавы і цяпер ёсць усе інструменты, каб навесці парадак, — было б жаданне. Быццам бы не ён прызначае і здымае з пасадаў суддзяў, генпракурора, старшыню Следчага камітэта ды іншых прадстаўнікоў дзяржэліты.

Наступны варыянт: пакараць ахамелых сілавікоў. Хацелася б, але малаверагодна. І так некаторыя з іх глядзяць у бок Расіі, ды з радасцю перабягуць на варожы бок пры першай жа магчымасці. Так што асабліва тут не прыціснеш, не ведаючы, наколькі верныя людзі табе служаць. Яшчэ з варыянтаў — знізіць градус напалу ў грамадстве. Але траціна грамадства зараз корпаецца ў градах, другая траціна тусіць па турцыях і зыбіцкіх, а трэцяй наогул не да таго — марнее ў працы, вымушаная выжываць на кінутыя ўладамі капейчыны. Ні справа галоўнага інжынера МЗКЦ Галавача, якая часткова і была нагодай для гэтай нарады, ні іншыя фальсіфікаваныя справы не сталі б прычынай народных пратэстаў. Дый для зніжэння градуса напалу ёсць стары правераны метад, які шматразова паказваў сваю эфектыўнасць, — дубінкі, кайданкі, а самыя гарачыя галовы можна астудзіць і вадамётамі.

Што нам застаецца? Ён самы — піяр, папулізм. «Хлеба і відовішчаў». З хлебам жнівень, падаецца, не падвёў, дый у відовішчах у нас недахопу няма. Папулісты заўжды будуюць свае выступы вакол вострых сацыяльных праблемаў. На нарадзе Лукашэнка акрэсліў многія з іх: следчыя фальсіфікуюць справы, на суддзяў ціснуць для вынясення патрэбных прысудаў, сілавікі часта неабгрунтавана жорстка дзейнічаюць у дачыненні затрыманых, праваахоўнікі кіруюцца не пошукам справядлівасці, а максімальнымі паказчыкамі па раскрывальнасці справаў — і няважна, якім коштам гэта даецца.

Але нам пра гэта паўтараць не трэба. Маці падлеткаў, асуджаных на дзясяткі гадоў па наркатычных артыкулах, гадамі гавораць тыя рэчы, якімі Лукашэнка зараз публічна абураецца, — карыстальнікаў і дробных распаўсюднікаў арыштоўваюць, а буйныя каналы наркатрафіку дагэтуль не перакрытыя. Несправядліва засуджаныя адпраўляюць таўшчэзныя лісты з доказамі сваёй невінаватасці ва ўсе магчымыя інстанцыі — у Адміністрацыі кіраўніка дзяржавы, куды падобныя лісты ідуць несупыннай плынню, не маглі пра гэта не ведаць.

На «гістарычнай нарадзе» Лукашэнка абурыўся, што яго проста інфармуюць пра сваволле праваахоўнікаў, а меры ўздзеяння не прымаюцца. Мы, беларускія грамадзяне, патрабуем таго ж: мы не хочам чарговым разам слухаць «ва ўсім разбярэмся», «усіх пакараем». Мы хочам ведаць імя следчага, які ціснуў на суддзю па справе Галавача, імя вінаватага ў нападзе АМАПа на мінскага педыятра Сераду на вачах яго двухгадовай дачкі і цяжарнай жонкі. І нам патрэбныя не проста імёны — а справядлівае пакаранне для іх.

Прыгожыя словы казаць нескладана, а вось навесці парадак у выбудаванай Лукашэнкам сістэме — амаль неверагодна. У сістэме, якая грунтуецца на гвалце, сіле, падпарадкаванні, няма месца такім пераменным, як пакаянне і прабачэнне. Найлепшы вынік, які можа даць гэтая нарада, — гэта пара-тройка паказных справаў са звальненнем і публічным шальмаваннем праваахоўнікаў за дробныя фальсіфікацыі.

Шкада толькі тых сотняў і тысячаў, хто калісьці патрапіў пад прэс сілавікоў і цяпер займеў марныя спадзяванні на справядлівасць.

# Што не так са справядлівасцю ў Беларусі?

Кірыл ІВАНОЎ

**«Людзі ўсё могуць дараваць, але несправядлівасць ніколі не даруюць. У аснове працы ўлады павінна быць справядлівае стаўленне да людзей і справядлівае вырашэнне пытанняў», — так сказаў Лукашэнка, калі прызначаў новых кіраўнікоў у Бялыніцкім, Дрыбінскім і Чавускім раёнах.**

Мяркуючы па афіцыйным сайце Лукашэнкі, словы пра справядлівасць у яго прамовах сустракаюцца ўсё часцей. І, як правіла, пра справядлівае стаўленне да людзей гаворка заходзіць падчас прыняцця кадравых рашэнняў.

Вось адзін з нядаўніх прыкладаў: «Асновай палітыкі ўлады на месцах, як і ў цэлым у краіне, павінна быць справядлівае і сумленнае стаўленне да людзей. Запыт на справядлівасць нікуды не сышоў, ён толькі абвастраецца». Гэта з выступу падчас прызначэння новых кадраў 29 ліпеня.

Цалкам магчыма, што ўлады пачалі надаваць увагу пытанню справядлівасці з набліжэннем дзвюх выбарчых кампаній. Але некалькі момантаў паказваюць і на тое, што гэтая ўвага мае не толькі кан'юнктурныя карані.

Прызначаючы на пасаду кіраўніка МУС, Лукашэнка нагадаў пра скандал у Магілёве, звязаны з яго папярэднікам: «Перабралі. Убачылі, што яны не вінаватыя. Так ідзіце і проста папрасіце прабачэння перад імі. І людзі зразумеюць. Не трэба плугам ці бульдозерам перці на ўсё, што перад табой. Недзе трэба і акуратней, дзесьці аб'ехаць. А не атрымалася — выбачайце. Трэба разумна. Не трэба людзей лічыць сваімі ворагамі: ах, там вось гэтыя цыганы, яны такія-сякія... Нармальныя яны людзі. Што, сярод беларусаў, рускіх, габрэяў ці палякаў у нас тут няма злачынстваў? Ды хапае! Справядлівасць павінна ляжаць у аснове ўсяго, асабліва ў тых, хто носіць пагоны».

З аднаго боку, не можа не радаваць факт, што на самай вярхушыні ўлады, па-першае, пачалі прызнаваць факты несправядлівага стаўлення да простых грамадзянаў на месцах. І, па-другое, рэгулярна нагадваюць пра неабходнасць вырашаць гэтую праблему. Калі б не адно «але».

Задачу змагацца з несправядлівасцю дае той, хто ўжо чвэрць стагоддзя ўтрымлівае практычна аднаасобную ўладу у краіне. Вырашаць праблему, у сваю чаргу, трэба будзе тым, ад каго, па вялікім рахунку, мала што залежыць. Хто не матываваны несці адказ перад людзьмі, бо абавязаны сваёй пасадай не ім, а таму, хто іх прызначыў.

І пакуль гэтае замкнёнае кола застанецца непарушным, запыт на справядлівасць з боку простых людзей будзе толькі расці.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Пра ўзвядзенне НВЦ каля Курапатаў рыхтуецца ўказ Лукашэнкі

Марат ГАРАВЫ

**Па даручэнні кіраўніка дзяржавы Саветам міністраў Беларусі разам з Кіраваннем справамі прэзідэнта краіны падрыхтавана архітэктурная канцэпцыя Нацыянальнага выставачнага цэнтру з улікам яго размяшчэння паміж Курапатамі і «Экспабелам».**

Пра гэта паведаміў намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва Аляксей Ананіч у адказе на зварот грамадскасці «Захаваем поле-помнік паміж Курапатамі і "Экспабелам"!».

Паводле спадара Ананіча, дзеля ажыццяўлення праекту ўзвядзення Нацыянальнага выставачнага цэнтру (НВЦ) рыхтуецца адпаведны ўказ кіраўніка дзяржавы.

Гэты ўказ павінен урэгуляваць пытанні будаўніцтва цэнтру, у тым ліку вызначыць заказчыка па праектаванні і ўзвядзенні аб'екту, генеральную праектную арганізацыю па праектаванні і ажыццяўленні аўтарскага нагляду, месца размяшчэння НВЦ і ўмовы выдзялення зямельнай пляцоўкі.

Нагадаем, што зварот «Захаваем поле-помнік паміж Курапатамі і "Экспабелам"!» — рэакцыя грамадскасці на рашэнне кіраўніка дзяржавы аб пабудове НВЦ на полі паміж Курапатамі і «Экспабелам». Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу на неабходнасць узвесці функцыянальны, просты, прыгожы і якасны комплекс без лішніх выдаткаў.

«Паколькі ў гэтым месцы ляжаць тысячы нашых з вамі продкаў і суайчыннікаў — бязвінных ахвяраў сталінізму, Курапаты сталі святыняй усяго беларускага народа, сваім трагічным мінулым яднаюць нацыю і патрабуюць ад нас адказнага, шчырага і сумленнага стаўлення», — падкрэсліваецца ў звароце грамадскасці.

Аўтары звароту нагадваюць, што Курапаты з'яўляюцца гістарычна-культурнай каштоўнасцю міжнароднага значэння «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 1930-х — 1940-х гадоў ва ўрочышчы Курапаты», і зазначаюць: апошнія падзеі ў гэтым месцы смутку і пакаяння, у тым ліку планы ўзвесці НВЦ на полі паміж урочышчам і «Экспабелам», сведчаць пра тое, што ў курапацкім пытанні ўлады ігнаруюць пазіцыю беларускай і міжнароднай грамадскасці.

«Мы лічым, што для захавання Народнага мемарыялу ў Курапатах неабходна перайсці ад супрацьстаяння з грамадскасцю да ўзважанага дыялогу на грунце нарматыўна-прававых дакументаў, аргументаў спецыялістаў і спрадвечных каштоўнасцяў. На нашае меркаванне, асноўнай тэмай такога дыялогу павінна стаць захаванне гістарычнага поля паміж Курапатамі і «Экспабелам», дзе мяркуецца ўзвядзенне НВЦ», — гаворыцца ў звароце.

Яго аўтары акцэнтуюць, сярод іншага, увагу на тым, што ўзвядзенне НВЦ у абраным месцы парушыць звыклы выгляд гістарычнага поля з яго ландшафтам, краявіднымі пунктамі і грунтавой «Дарогай смерці», па якой ахвяраў вазілі ў Курапаты на расстрэл, стане фактарам дадатковага моцнага антрапагеннага ўціску на ўрочышча, непазбежна паўплывае на ўспрыманне самога НВЦ і яго экспазіцыяў, прынізіць Курапаты як знакавы помнік айчыннай гісторыі.

Зыходзячы з таго, што абранае для будаўніцтва НВЦ месца не адпавядае архітэктурна-ландшафтнаму атачэнню абодвух складнікаў — як саміх Курапатаў, так і Нацыянальнага выставачнага цэнтру, — грамадскасць просіць улады перагледзець тэрыторыю размяшчэння НВЦ і пакінуць поле паміж урочышчам і «Экспабелам» як месца нацыянальнай памяці.

# Меркаванне: амбудсмен дапаможа ў адмене смяротнай кары

Аляксей ХАРКЕВІЧ

**Напрыканцы ліпеня ў Беларусі зноў быў вынесены чарговы смяротны прысуд. Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, дзе дагэтуль прымяняецца смяротная кара.**

Паводле беларускага заканадаўства, вышэйшая мера пакарання можа прызначацца мужчынам ва ўзросце ад 18 да 65 гадоў, якія ўчынілі асабліва цяжкія злачынствы. Звычайна гэта забойства двух або больш чалавек, альбо забойства, учыненае з асаблівай жорсткасцю. Сярод асуджаных на смяротнае пакаранне параўнальна мала серыйных забойцаў або заўзятых бандытаў. Адзінкавы выпадак тэрарызму. Як правіла, гаворка ідзе пра побытавыя забойствы, абцяжараныя станам алкагольнага або наркатычнага ап'янення.

Аднак, нягледзячы на тое, што ўжыванне смяротнага пакарання не звязанае з пытаннямі нацыянальнай бяспекі і падтрыманнем цэласнасці існуючай палітычнай сістэмы, беларускія ўлады працягваюць настойліва падкрэсліваць, што адмяняць яго не збіраюцца. Асноўнай прычынай называюцца вынікі рэферэндуму, праведзенага ў 1996 годзе, калі 80% грамадзян, што прынялі ўдзел у галасаванні, выказаліся за прымяненне вышэйшай меры пакарання.

На першы погляд, аргумент даволі важкі. Аднак нельга не адзначыць, што з часу рэферэндуму прайшло ўжо 23 гады. Гэта азначае, што па ўзроставых абмежаваннях у ім не маглі прымаць удзел сённяшнія беларусы ва ўзросце да 40 гадоў уключна. А гэта, між іншым, больш за палову насельніцтва краіны.

Урэшце, калі б беларусам прапанавалі зноў выказацца на гэты конт, з вялікай верагоднасцю можна сцвярджаць, што яны б зноў прагаласавалі за ўжыванне смяротнага пакарання. І зусім не таму, што беларусы больш жорсткія, чым еўрапейцы або расіяне. Грамадская падтрымка адмены смяротнага пакарання з'яўляецца рэдкім выключэннем для любых народаў. Напрыклад, у Вялікабрытаніі больш за палову насельніцтва ўпершыню выказалася супраць смяротнага пакарання толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля яго фактычнай адмены.

У адсутнасці мараторыя на смяротнае пакаранне павінна быць важкая прычына. Асобныя палітолагі сходзяцца ў меркаванні, што прычына — нежаданне ўваходзіць у Раду Еўропы, дзякуючы чаму беларускія грамадзяне сёння пазбаўленыя магчымасці скардзіцца ў Еўрапейскі суд па правах чалавека. Чаму ж тады ў іншых постсавецкіх краінах, дзе апазіцыя ўяўляе больш істотную пагрозу для дзеючай улады, ніхто праблемы са скаргамі ў Еўрапейскі суд па правах чалавека не бачыць? Відавочна, што прычына не ў гэтым.

Некаторыя адзначаюць, што патэнцыйнае ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне можа выкарыстоўвацца як козыр пры перамовах з заходнімі партнёрамі па стратэгічна важных для Беларусі пытаннях. Аляксандр Лукашэнка за 25 гадоў перажыў розныя этапы адносін з Еўрасаюзам. Дзіўна, што за чвэрць стагоддзя гэты козыр так і не спатрэбіўся.

Хутчэй за ўсё, прычына нашмат банальнейшая. Мараторый на смяротную кару — вельмі непапулярнае рашэнне. Прыняцце яго Лукашэнкам у любы час беларусы адназначна расцанілі б як праяву слабасці. У сучаснай Расіі ж гэта, напэўна, будзе расцэнена асобнымі сіламі як праява антырасійскай палітыкі. Сёння ціск з боку Масквы можа апынуцца ўдвая больш балючым, бо колькасць насельніцтва Беларусі, што сімпатызуе палітыцы Крамля на міжнароднай арэне, даволі значная. У выніку кошт мараторыя на смяротнае пакаранне можа аказацца неапраўдана высокім.

Цікава, што беларускія чыноўнікі розных узроўняў у час сустрэч са сваімі заходнімі калегамі на словах падзяляюць пазіцыю еўрапейцаў адносна забароны смяротнага пакарання. Маўляў, мы разумеем, што нам трэба развівацца ў гэтым кірунку, але беларускае грамадства пакуль не гатовае. Тут чытаецца пасыл еўрапейскім партнёрам: «Нас пераконваць не трэба, пераканайце беларускіх грамадзянаў».

А вось у частцы фарміравання грамадскай думкі па гэтым пытанні ў нас, сапраўды, пакуль неаранае поле. У краіне папросту няма сілаў, якія маглі б сістэмна ўзяцца за гэтую працу.

У нашай краіне, у артыкуле 1 Канстытуцыі якой запісана, што Беларусь з'яўляецца прававой дзяржавай, дагэтуль няма пасады ўпаўнаважанага па правах чалавека. Абаронцамі правоў чалавека ў цяперашні час называюць сябе толькі актывісты, магчымасці якіх абмежаваныя, і ім не пад сілу лабіяванне такіх пытанняў, як увядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне.

Між тым, пасада амбудсмена — звычайная з'ява не толькі для краін Еўропы і постсавецкай прасторы, але нават і для непрызнаных рэспублік, такіх, як Абхазія, Паўднёвая Асецыя або Прыднястроўе.

Увядзенне такой пасады ў Беларусі стала б тым прамежкавым крокам на шляху да адмены смяротнай кары, які мог бы задаволіць усіх зацікаўленых актараў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Наперад, у казку!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Традыцыйна, калі людзі выходзяць з адпачынку і азіраюцца навокал, яны заўважаюць шмат цікавага. Асабліва, калі пачынаюць займацца паўсядзёнными справамі, збіраць дзяцей у школу. І ў іх, канешне, узнікаюць пытанні: «Як мы будзем жыць далей?» І што для лепшага жыцця робяць тыя, каму належыць гэта рабіць?**




Фота www.postila.ru

Перспектывы з навінаў тыдня ў нас, шчыра кажучы, не вельмі радасныя. Найперш, раней праходзіла інфармацыя, што Латвія будзе набываць электрычнасць з БелАЭС, якая павінна запусціцца вось-вось. Гэта, канешне, устурбавала Літву, — літоўцы катэгарычна супраць працы гэтага аб'екта ў адноснай блізкасці ад іх сталіцы. І ў адказ на гэта Літва хоча стварыць міжнародную кааліцыю супраць беларускай АЭС.

Пад патранажам прэзідэнта Літвы пройдзе энергетычная канферэнцыя, на якой абмяркуюць пытанні ў галіне энергетычнай бяспекі, «у тым ліку магчымасць стварэння кааліцыі супраць атамнай электрастанцыі, якая будуецца ў беларускім Астраўцы расіянамі, што Літва разглядае ў якасці экалагічнай і эканамічнай пагрозы». Вядома, што згоду на ўдзел у мерапрыемстве дала Польшча.

Яшчэ адна навіна — з фінансавага рынку — таксама праходзіла раней. Пра тое, што золатавалютныя рэзервы Беларусі нарэшце ўзраслі да «рэкордных за апошнія гады аб'ёмаў» — каля $8 мільярдаў. Гэта, у прынцыпе, тая самая аптымальная для краіны лічба, на якой яны павінны быць. Але ў той жа час журналісты РБК сабралі ўсю наяўную адкрытую інфармацыю аб абавязках іншых краін перад Расіяй і высветлілі, што Беларусь — найбуйнейшы даўжнік Расіі. Па дадзеных Мінфіна Беларусі, на 1 чэрвеня 2019 года наша краіна была вінная ўсходняй суседцы $7,55 мільярда. З 2012 года доўг Беларусі перад Расіяй вырас у два разы. Пры гэтым упершыню Масква адмовілася рэфінансаваць бягучую частку беларускага доўгу.

Для параўнання, Украіна вінная Расіі $3,7 мільярда, Венесуэла — $3,5 мільярда, Куба — $3,2 мільярда. Агульную запазычанасць па расійскіх дзяржкрэдытах Мінфін РФ на 1 траўня 2019 года ацэньваў у $39,4 мільярда, з якіх $ 15,8 мільярда вінныя краіны СНД.

То-бок, усе нашы ЗВР — гэта адзін доўг Расіі. Але ж на нас «вісяць» і кітайскія крэдыты, і наўрад ці журналісты РБК палічылі ў гэтым тую самую АЭС, якую мы пабудавалі за крэдыт у $10 мільярдаў (што перавышае лічбу, агучаную РБК).

А між тым, дзяржава грошы не ашчаджае, а наадварот. Мы ўжо пісалі пра тое, што выдаткі на выбары ў гэтым годзе ў бюджэт не закладзеныя, а значыць, трэба шукаць грошы. Але выбары — гэта не толькі друкаванне бюлетэняў і скрыні для галасавання. Гэта, зазвычай, і «плюшкі» для электарату. А таму, паводле дадзеных статыстыкі, рост расходаў дзяржавы ў першым паўгоддзі 2019 года склаў 11,4% да аналагічнага ўзроўню мінулага года.

Найбольш істотна за 2019 год павялічыліся выдаткі ФСАН — на 17,2%. Пры гэтым прырост расходаў ФСАН на 1,1 мільярда рублёў перавысіў прырост даходаў фонду на 0,2 мільярда рублёў, а значыць, дэфіцыт сродкаў у ФСАН павялічваецца. Фактычна, дзяржава ў 2019 годзе павялічвае памер выплат па сацыяльных дапамогах і пенсій без уліку рэальнага фінансавага стану даходаў фонду.

Другой па росце расходаў у 2019 годзе стала сацыяльная сфера. Выдаткі на сацыялку — і ў першую чаргу, на рост аплаты працы ў адукацыі, ахове здароўя і гэтак далей — павялічыліся на 13,3%.

Менш істотна павялічваліся выдаткі на нацыянальную эканоміку — на 8,7%, і на агульнадзяржаўную дзейнасць — на 5,9%. Апошняе сведчыць пра тое, што прыярытэтам для дзяржавы ў 2019 годзе стала забеспячэнне росту даходаў насельніцтва над іншымі выдаткамі дзяржавы.

Варта адзначыць, што перавышэнне тэмпаў росту выдаткаў над даходамі ў першым паўгоддзі 2019 года прывяло да скарачэння прафіцыту дзяржаўных фінансавых рэсурсаў з 3,4 мільярда рублёў у 2018 годзе да 2,5 мільярда рублёў у 2019 годзе. Вядома, што прафіцыт бюджэту накіроўваецца пераважна на пагашэнне знешняга доўгу дзяржавы (памятаеце пра разлікі РБК і кітайскія крэдыты?). А значыць, дзяржава будзе імкнуцца не пагашаць знешні доўг, а рэфінансаваць яго за кошт новых запазычанняў. А Расія адмаўляецца ад такой «пралангацыі» доўгу. Што, адпаведна, нясе нам значныя рызыкі ў будучыні — можа быць, аж да дэфолту.

І каб гэта ўсё неяк істотна адбівалася на росце даходаў насельніцтва! На самай справе, так не атрымліваецца.

Паводле дадзеных Следчага камітэта, у Беларусі ўпершыню за шмат гадоў адзначаецца сур'ёзны рост злачыннасці. У студзені-ліпені гэтага года колькасць злачынстваў вырасла на 8,3 працэнта ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага года. Паводле статыстыкі МУС Беларусі, найбольш значны рост злачыннасці ў бягучым годзе адзначаны ў Мінску — адразу амаль на 25 працэнтаў. Асноўны прырост (каля 10%) адбыўся ў катэгорыі менш цяжкіх злачынстваў і злачынстваў, якія не ўяўляюць вялікай грамадскай небяспекі. Амаль палова злачынстваў прыпадае на крадзяжы.

Крадзяжы — злачынствы, выкліканыя пераважна сацыяльнай неўладкаванасцю, сацыяльна-эканамічнымі прычынамі. То-бок, адбываецца тое, пра што папярэджвалі эксперты, — зніжэнне ўзроўню жыцця грамадзянаў, усялякія «дармаедскія падаткі» і адвольныя зборы (ці тое «на свята гораду», ці тое «допуск транспартнага сродку да руху») — спараджаюць рост злачыннасці.

Паказальна, што ўсплёск злачыннасці ў Беларусі прыпаў на 1990-я гады, якія характарызаваліся глыбокім сацыяльна-эканамічным крызісам, выкліканым распадам савецкай сістэмы. Па меры аднаўлення эканомікі зніжаўся і агульны ўзровень крыміналізацыі беларускага грамадства.

Такім чынам, трэба эканомікай займацца, тады і злачыннасці будзе менш. Але... Адным з гучных прызначэнняў гэтага тыдня было прызначэнне новага галоўнага ідэолага краіны — Андрэя Кунцэвіча. Ён будзе курыраваць сферы ідэалогіі і працы СМІ.

То-бок, замест развіцця эканомікі і рэальнага павышэння дабрабыту насельніцтва нам будуць расказваць, як у нас усё добра. Наперад, у казку!

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Генадзь Фядыніч



**Лідар прафсаюза РЭП, хаця і паранейшаму жыве пад пастаянным наглядам міліцыі, мае намер скарыстаць парламенцкую і прэзідэнцкую кампаніі.**

Фядыніч чакае амністыі, і гэтым выкліканая больш пільная ўвага да яго міліцыянтаў. Прафсаюзнага лідара рэгулярна правяраюць. «Калі знойдуцца парушэнні, то амністыю можна будзе і не ўжываць да мяне. Хаця мы ўсю шкоду аплацілі, і артыкул, які нам з Ігарам інкрымінавалі, трапляе пад амністыю», — сказаў ён.

Па яго словах, РЭП рыхтуецца да палітычных кампаній. «Мы рыхтуем простую і зразумелую праграму для людзей пра тое, што павінен рабіць парламент, на якіх пытаннях павінны акцэнтаваць увагу цяперашнія і будучыя дэпутаты. Мы прапануем простыя рэчы, якія сёння хвалююць практычна кожнага беларуса. Адмяніць кантрактную сістэму ў працоўных адносінах; вярнуць у страхавы стаж дэкрэтныя адпачынкі, вучобу і службу ў войску; паменшыць страхавы стаж да 15 гадоў; адмяніць так званую дэпутацкую пенсію. Не павінна быць ніякіх дэпутацкіх пенсій, хай атрымліваюць пенсію, як і ўсе выбаршчыкі! Ліквідаваць прэзідэнцкі фонд — накіруем усе сродкі ў фонд дапамогі хворым дзецям. Адмяніць паборы за арганізацыю мітынгаў».

Па словах Фядыніча, прафсаюз падтрымае ўсіх, хто далучыцца да гэтай праграмы.

## Андрэй Галавач



**Мінскі гарадскі суд адхіліў апеляцыю Генпракуратуры на апраўдальны прысуд галоўнаму інжынеру Мінскага завода колавых цягачоў Андрэю Галавачу.**

Такое рашэнне прыняла судзейская калегія пад старшынствам суддзі Сяргея Хрыпача.

Напачатку працэсу суддзя Хрыпач зачытаў пратэст на апраўдальны прысуд Галавачу. У ім сцвярджаецца, што «прысуд падлягае адмене ў сувязі з неадпаведнасцю высноў, выкладзеных у ім высноў фактычным абставінам справы і істотнымі парушэннямі крымінальна-працэсуальнага закона». У падтрымку пратэсту пракурор Юрый Шарснёў паспрабаваў даказаць судовай калегіі, што некаторыя паказанні, якія нібыта даказваюць віну Галавача, суд першай інстанцыі не разгледаў, іншыя — памылкова прызнаў непаслядоўнымі і супярэчлівымі.

Галавач заявіў, што лічыць прысуд суда першай інстанцыі законным. Ён звярнуў увагу судзейскай калегіі на тое, як ажыццяўляўся збор накіраваных супраць яго паказанняў: «Да сведкі спачатку прыходзяць дадому з ператрусам, а потым на працягу доўгага перыяду праводзяць допыты. Адпускаюць толькі пасля таго, як атрымліваюць паказанні, што задавальняюць следства. Бок абвінавачвання пра гэта цяпер нічога не кажа, хаця пра гэта заяўлялі сведкі на судзе».

У выніку Мінгарсуд пакінуў прысуд без зменаў, і апраўданне інжынера МЗКЦ набыло законную моц.

Галавач быў затрыманы вясной 2015 года па абвінавачванні ў атрыманні хабару. 19 ліпеня гэтага года суд Першамайскага раёна Мінска цалкам апраўдаў Галавача, ён быў вызвалены ў зале суда пасля 50 месяцаў утрымання пад вартай.

## Марцін Ягер



**Яшчэ адзін замежны спартсмен «скраў» нашу зорку. Швейцарскі біятланіст на мінулых выходных ажаніўся з Надзеяй Скардзіна.**

А ўжо ў пятніцу Ягер стартаваў на чэмпіянаце свету па летнім біятлоне ў Раўбічах.

Сам пра сябе Ягер кажа: «Я просты хлопец». Ён вырас у маленькай швейцарскай вёсцы з насельніцтвам 400 чалавек. Займаецца, апроч біятлону, альпінізмам — узыходзіў на Эльбрус.

«Па сутнасці, лыжы — нашая галоўная зімовая забаўка. Мой тата працаваў дзіцячым трэнерам па бегавых лыжах, так што мы з сёстрамі займаліся ў яго з самага дзяцінства. Пазней я стаў прафесійным лыжнікам, хоць ніколі не быў добры ў перамяшчэнні класічным стылем. А ў 2014-м вырашыў перайсці ў біятлон. Да гэтага часу хапае праблем са стральбой, але працую над гэтым», — распавядае ён.

Па яго словах, Надзя Скардзіна вельмі дапамагае яму ў трэніровачным працэсе. Невыпадкова яго лепшы вынік на Кубку свету быў у мінулым годзе, пасля знаёмства са Скардзіна. Нагадаем, што ўлетку 2018 года Надзея Скардзіна заявіла пра завяршэнне спартовай кар'еры.

# Фіёна Гіб: «Я пакідаю Беларусь з цяжкім сэрцам»

Аксана КОЛБ

**Пасол Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь Фіёна Гіб 23 жніўня пакінула Беларусь, каб працягнуць сваю дыпламатычную кар'еру ў новай якасці. Перад ад'ездам спадарыня Гіб падзялілася сваімі ўражаннямі з чытачамі НЧ.**



***— Тры з паловай гады ў Беларусі прайшлі на адным дыханні або цягнуліся доўга і нудна, і вам хацелася хутчэй з'ехаць?***

— Тры з паловай гады праляцелі надзвычай хутка. Гэта былі вельмі цікавыя гады, і я пакідаю Беларусь з цяжкім сэрцам. Шкада, што я з'язджаю, але гэта наша дыпламатычнае жыццё.

***— За гэты час вы зрабілі вельмі шмат. Было рэалізавана мноства цікавых праектаў, але, можа быць, пра нейкія з іх вы б хацелі распавесці асабліва?***

— Гэта праўда, мы рэалізавалі даволі шмат праектаў. Хоць Вялікабрытанія не з'яўляецца буйным донарам у параўнанні, напрыклад, з Еўрасаюзам ці ЗША, у плане фінансавання праектнай дзейнасці. Але мы працавалі разам з ААН па тэме хатняга гвалту і супрацоўнічалі з Міністэрствам унутраных спраў па гэтай тэме — яно, дарэчы, з'яўляецца нашым важным партнёрам. Таксама цяпер ідзе праект сумесна з ЮНІСЕФ. Гэта праект па ювенальнай юстыцыі. У яго межах мы супрацоўнічаем з мясцовымі ўладамі, каб распрацаваць альтэрнатыўныя турэмнаму тэрміну варыянты. Вядома, гэта залежыць ад цяжкасці злачынства, аднак альтэрнатыўныя спосабы пакарання могуць быць рашэннем. Турэмны тэрмін для маладых людзей з'яўляецца дрэнным пачаткам іх жыцця, і альтэрнатыўныя спосабы пакарання дазволілі б ім пазбегнуць гэтага.

Таксама яшчэ адна са сфераў, над якой мы працавалі, — гэта медыя. Мы працавалі як з дзяржаўнымі, так і з недзяржаўнымі СМІ. Адзін з рэалізаваных намі праектаў — паляпшэнне лічбавых навыкаў медыя ў рэгіёнах. І мы збіраемся працягваць факусавацца на тэме медыя, у большай ступені — недзяржаўных. І ў дадатак да гэтага ў нас плануецца праект па навучанні дзяржаўных прэс-сакратароў або супрацоўнікаў прэс-аддзелаў.

Мы таксама рэалізавалі некалькі праектаў па эканамічных рэформах, але яны, напэўна, не такія цікавыя для абмеркавання. Не магу зараз прывесці прыклад, які так вылучаўся б.

Наша праектная дзейнасць накіраваная на тое, каб падтрымліваць палітыку Вялікабрытаніі ў адносінах да Беларусі. А нашай палітыкай з'яўляецца падтрымка Беларусі як незалежнай суверэннай краіны. Моцная незалежная суверэнная дзяржава заснаваная на моцнай эканоміцы, таму вельмі важна працаваць над эканамічнымі рэформамі. І, вядома, самыя моцныя эканомікі ў свеце з'яўляюцца дэмакратыямі. Людзі там могуць быць крэатыўнымі і мець поспех. Таму мы таксама працуем у галіне грамадзянскіх і палітычных правоў.

Мы лічым важнымі свабоду выказванняў ды свабоду асацыяцый, аднак з гэтымі дзвюма тэмамі ў Беларусі ёсць пэўныя праблемы. Кантроль, які існуе ў Беларусі, у цэлым уплывае на тое, як грамадства сябе паводзіць, і паслабленне такога кантролю можа дапамагчы людзям быць крэатыўнымі і квітнець.

Я ведаю, што для беларусаў вельмі важная стабільнасць, але павінен быць баланс паміж захаваннем парадку і свабодай выказванняў. Я маю на ўвазе свабоду выказванняў у самым шырокім разуменні — як стварэнне атмасферы, якая б спрыяла людзям у сваім самавыяўленні.

***— Ці магчыма ў гэтым кірунку нешта змяніць?***

— Чаму ж не? Чаму гэта не павінна здарыцца ў Беларусі? Можа быць, не заўтра — у Беларусі змены займаюць вельмі шмат часу. Але я не бачу прычын, чаму ў будучыні гэтага не павінна здарыцца.

***— Вы хацелі б прыехаць у гэтую новую Беларусь як афіцыйная асоба, каб зрабіць нешта яшчэ?***

— Ні ў гэтую Беларусь, ні ў новую Беларусь я ў якасці афіцыйнай асобы ўжо не вярнуся, але збіраюся прыязджаць сюды да сваіх сяброў прыватным чынам.

***— Ці засталіся нейкія рэчы, што не атрымаліся? Можа, з-за недахопу фінансаў або энергіі? Хоць вы, напэўна, самы энергічны амбасадар у нашай краіне...***

— Хацелася б, каб у мяне было больш супрацоўнікаў ***(смяецца)***. Я б з задавальненнем скарысталася вялікай колькасцю рэсурсаў ад калегаў з Лондана. Але, у прынцыпе, справы ў нас ішлі не так ужо і дрэнна. З таго часу, як я прыехала, у нас з'явіліся тры новыя пазіцыі ў пасольстве: аддзел абароны, супрацоўнік, які адказвае за эканамічныя пытанні, і праграмны менеджар.

Мы спрабуем рабіць максімум з таго, што можам, але, напэўна, я хацела б тут яшчэ ўбачыць пастаяннага супрацоўніка нашага дэпартамента міжнароднага гандлю. Гэта нам надзвычай дапамагло б развіваць гандлёвыя адносіны.

Зараз усё мяняецца, у тым ліку і Беларусь змянілася. Яна вельмі моцна адрозніваецца ад той Беларусі, у якую я прыехала.

***— Было складана адаптавацца да Беларусі?***

— Не, зусім не складана. Я прывыкла адаптавацца да новых краін — і гэта ўжо восьмая краіна, у якой я жыву. Мне нескладана адаптавацца да краіны, якую я, да таго ж, выбрала сама. Нас ніхто не прымушае прыязджаць у нейкую краіну — гэта наш свядомы выбар. Мы прыязджаем туды, дзе нам цікава працаваць.

***— У адной са сваіх прамоваў вы назвалі беларусаў вельмі беражлівымі. Якія яшчэ рысы вам падабаюцца ў беларусах, а якія раздражняюць?***

— Мне падабаецца паважлівасць. Беларусы вельмі шчодрыя. Магу назваць яшчэ такую рысу беларусаў, як цікаўнасць, цікавасць да таго, што пра іх думаюць. Мне часта задаюць пытанне пра тое, што я думаю пра Беларусь. І яшчэ адна рыса — працавітасць.

Тое, што мяне крыху раздражняе, — гэта недахоп ініцыятывы. Людзі занадта доўга чакаюць, каб ім сказалі, што трэба рабіць. Нават мае супрацоўнікі ў гэтым вінаватыя. Я б хацела больш дынамікі ад людзей. Людзі часта факусуюцца на іх сферы абавязкаў і не заўсёды могуць праводзіць сувязі з працай іншых супрацоўнікаў. Яны думаюць у адным кірунку, замест таго, каб думаць усебакова і задумвацца пра тое, як іх праца можа дапамагчы іншым супрацоўнікам.

І гэта не толькі маё меркаванне. З маіх размоваў з калегамі з прадстаўніцтва Еўрасаюза і пасольства ЗША я чула тыя ж уражанні — і мне здаецца, што гэта, напэўна, звязана з агульным характарам беларусаў. Атрымліваецца, з аднаго боку — павага, ветлівасць, нежаданне навязвацца і неяк сябе фарсіраваць, а з другога — гэта не вельмі дапамагае, калі трэба, каб праца была зробленая.

Мне здаецца, каб Беларусь была канкурэнтаздольнай, каб была паспяховай на міжнароднай арэне, ёй трэба больш сябе прасоўваць. А не быць, як тая дзяўчына, якая ўсё чакае, калі ж у яе з'явіцца нарэшце хлопец, але пры гэтым проста сядзіць дома і спадзяецца, што нехта пастукаецца да яе ў дзверы.

Так і Беларусь, нібы тая дзяўчына, чакае інвестараў. А ёй трэба рабіць значна больш, каб сябе прасоўваць, каб пра яе ведалі.

У вас ёсць выдатныя кампаніі, якія выкарыстоўваюць перадавыя тэхналогіі: і ІТ-кампаніі, і кампаніі, якія займаюцца распрацоўкамі ў сферы аховы здароўя, і нават традыцыйныя вытворчасці — як, напрыклад, Аршанскі льнокамбінат, у іх выдатная прадукцыя. І, напэўна, шмат іншых кампаній, у якіх я не пабывала. Усе гэтыя кампаніі вельмі шмат чаго могуць прапанаваць. Беларусь на самай справе можа шмат чаго прапанаваць. Але няма ініцыятывы няма актыўнага прасоўвання.

***— Напэўна, таму, што 25 гадоў ініцыятыва ў нашай краіне не віталася, і нават душылася. Тое, што некаторыя кампаніі яе праяўляюць, — хутчэй, выключэнне. Вы лічыце, што сітуацыю можна змяніць?***

— Для гэтага патрэбна лібералізацыя ў эканоміцы, у грамадстве ў цэлым — не толькі на палітычным узроўні, а на больш шырокім. Каб людзі змаглі развіваць свой патэнцыял.

Я, напрыклад, вядомая тым, што падтрымліваю правы ЛГБТ. Хоць, на самай справе, надаю гэтай тэме столькі ж увагі, колькі іншым. Я няшмат ведаю людзей з ЛГБТ-супольнасці, літаральна некалькі чалавек, але мне здаецца, калі ты жывеш у грамадстве, дзе табе немагчыма адкрыцца, калі табе даводзіцца хаваць нават ад сваёй сям'і, хто ты такі, — гэта таксама адбіваецца на грамадстве, таму што людзі не могуць быць крэатыўнымі. Большая талерантнасць дазволіла б грамадству стаць больш квітнеючым.

Талерантнасць Беларусі, на самай справе, яшчэ не была пратэставаная. Адзін з прыкладаў такога тэсту — нядаўні выпадак смерці міліцыянта ў Магілёўскай вобласці, калі былі пэўныя дзеянні і выказванні на адрас супольнасці ромаў. І вельмі добра было з боку кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта з імі сустрэцца і прынесці свае прабачэнні за такое да іх стаўленне.

***— У пачатку размовы вы сказалі, што пакідаеце Беларусь з цяжкім сэрцам...***

— Так. Гэта таму, што мне тут вельмі спадабалася працаваць, спадабаліся тыя людзі, якіх я тут сустракала, спадабалася сама праца. Вельмі спадабалася краіна — працаваць тут было задавальненнем. Менавіта таму я і з'язджаю з цяжкім сэрцам. Вядома, я буду сумаваць па сваіх супрацоўніках — мы разам працавалі тры з паловай гады, пакідаць каманду даволі сумна.

***— Вам на змену прыедзе спадарыня Жаклін Перкінс, якая да гэтага працавала ў краінах Азіі і Афрыкі, што б вы ёй параілі для працы ў Беларусі?***

— Я, напэўна, параю не спяшаючыся прымаць нейкія рашэнні. Сустракацца і размаўляць з людзьмі, сустракацца і размаўляць з калегамі з Еўрапейскага саюза і ЗША. І адчуць гэтае месца — гэтак жа не спяшаючыся.

Але я ўпэўненая, што Джэкі і так ведае, што трэба рабіць, і, напэўна, адзінае, што я ёй параю, — некалькі чалавек, якіх трэба пазбягаць. Але ў цэлым пасол, калі прыязджае ў новую краіну, не хоча чытаць 20 старонак парадаў. Чалавек прыязджае са сваім бачаннем, што і як трэба рабіць, — вядома, у рамках зададзенай палітыкі па краіне.

***— За апошнія гады мы ўбачылі іншую Вялікабрытанію, больш адкрытую, больш даступную. У гэтым, безумоўна, ваша заслуга. Спадзяюся, што ваша пераемніца ў гэтым плане будзе настолькі ж адкрытай.***

— Я шатландка, Джэкі — англічанка, але мы абедзве брытанкі. Хоць у Джэкі будзе свой стыль, яна працягне гэту працу. Мне здаецца, наша каманда таксама эвалюцыянавала за гэтыя тры з паловай гады. Можа быць, яны самі так не думаюць, але мне здаецца, што гэта так. І мне здаецца, што ў іх з'явілася больш амбіцый.

***— Магчыма, ёсць нешта, што вы хацелі б пажадаць чытачам адзінай у краіне недзяржаўнай беларускамоўнай газеты?***

— У шатландцаў вельмі моцна развітае пачуццё нацыянальнай ідэнтычнасці. Нашай гісторыі — сотні гадоў. Але і гісторыі Беларусі сотні гадоў.

Мне здаецца, Беларусь не надавала належнай увагі сваёй больш аддаленай гісторыі. Беларусь больш была сфакусаваная на той частцы гісторыі, якая была звязана з Савецкім Саюзам. А нацыянальная ідэнтычнасць — такая рэч, якую трэба ўзгадоўваць, асабліва калі ёй надавалі недастаткова ўвагі.

***— Мова можа адыграць у гэтым пэўную ролю?***

— Безумоўна. Напэўна, беларусам варта самім выбіраць, што для іх важна... Але ў вас столькі цудоўных твораў, напісаных на беларускай мове, што было б выдатна, каб беларусы хацелі вывучаць сваю мову.

Беларусь Эканамічная

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by

6–7 АФІЦЫЯНЦКАЯ «МАФІЯ»



8 ЯК СТАЦЬ РЭСТАРАТАРАМ
СТАЦЬ УЛАДАЛЬНІКАМ КАВЯРНІ ЦІ МАЛОГА КАФЭ – РЭАЛЬНА І НЕ СУПЕРЗАМОЖНЫМ БЕЛАРУСАМ

# Грамхарч: ядомае не дома

Міраслаў ГАЖЭЦКІ

**Эканамічная статыстыка сведчыць: апошнімі гадамі ў Беларусі істотна паболела самых розных установаў грамадскага харчавання. Але ці сталі вы радзей браць на працу ссабойкі, снедаць ці вячэраць прыгатаваным уласнаручна дома? Калі так, то за кошт паходаў у рэстараны ці кавярні ці дзякуючы набыццю ежы ў адмысловых аддзелах буйных крамаў ды фаст-фуду?**



Фота www.pogovorim.by

Натуральна, што на фармат нашага харчавання ўплывае памер даходу і звычкі. Таму, паводле сацыялагічных апытанняў, беларусы ядуць пераважна на сваіх кухнях.

## Колькі трацім у рэстаранах

Міжнароднае агенцтва сацыяльных і маркетынгавых даследаванняў выявіла, што толькі 4% жыхароў Мінска штодня харчуюцца ва ўстановах грамадскага харчавання. Сярод насельніцтва іншых беларускіх гарадоў гэты паказчык удвая меншы — 1,8%. Адпаведна, 8% і 2,3% бываюць там 2–3 разы на тыдзень, 11,3% і 5,2% — раз на тыдзень, 16% і 10,5% — раз на месяц, 9,5% і 6,2% — радзей, чым раз на месяц.

Ну, і 44,4% мінчукоў, а таксама 66,8% іншых нашых гараджан наогул установы грамхарчу не наведваюць!

Установы грамадскага харчавання бываюць розныя. Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, сярод іх больш за ўсё сталовак — 33,7%, далей ідуць кафэ, міні-кафэ і кафетэрыі — 33,4%, рэстараны хуткага харчавання, закусачныя, буфеты ды кавярні — 19,8%, бары — 9,3%, класічныя рэстараны — толькі 3,8%.

Дарэчы, самыя папулярныя (калі ўзяць у дужкі сталоўкі) у жыхароў беларускіх гарадоў — кафэ і піцэрыі. У сталіцы — фаст-фуд, кавярні, пякарні і кандытарскія. Гэта тлумачыцца іх высокай канцэнтрацыяй і малой колькасцю ў іншых гарадах. Часцей за ўсё ў кафэ і рэстараны людзі ходзяць з сябрамі ды знаёмымі (65%), сям'ёй і дзецьмі (41,6%), з каханымі (41,4%). Самыя распаўсюджаныя нагоды для наведвання — прабавіць час, сяброўская або сямейная сустрэча. Асноўныя чыннікі ў выбары ўстановаў грамадскага харчавання — якасць страў, кошт ежы і зручнае размяшчэнне.

Сэрвіс «Яндэкс-грошы» высветліў, што беларусы ў сярэднім пакідаюць за адно наведванне кафэ ці рэстарана 12 рублёў. Для параўнання, у краме — 19 рублёў, на якія ў тым ліку гатуецца ежа дома. Зрэшты, сярэдні чэк залежыць ад установы грамхарчу. Да прыкладу, у рэстаранах сеткі «Васількі» ён складае 30 рублёў, у піцэрыі «Піца Тэмпа» — 26, у «МакДональдсе» — 11, «Burger King» — 10 рублёў. Дарэчы, цікава, што на стравы з дастаўкай выдаткоўваецца больш, чым падчас харчавання ў кафэ. Такія замовы ў сярэднім абыходзяцца ў 20 рублёў.

Натуральна, што найтанней можна падсілкавацца ў сталоўцы — за 3–5 рублёў. Праверана. Калі вы даўно там не былі, то кошты вас здзівяць. Што праўда, ежа будзе вадзяністая (для спажывання той самай катлеты зубы не патрэбныя) і так сабе па смаку. І ўжо праз гадзіну настае адчуванне голаду. Як ад фаст-фуду, канечне, не патлусцееш, але пякотку здабыць лёгка.

## Льготы кармільцам

Чыноўнікі хваляцца, што развіццю грамхарчаўскіх установаў значна спрыяюць адносна нядаўна прынятыя (у 2017 годзе) дэкрэт №7 «Аб развіцці прадпрымальніцтва» і ўказ №345 «Аб развіцці гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання», які былі скіраваны перадусім на сельскую мясцовасць.

Гэты дэкрэт дазволіў ствараць аб'екты грамхарчу без раздзялення іх на тыпы і класы, распрацоўваць асартымент без уліку патрабаванняў абавязковага асартыментнага пераліку, зацверджанага Міністэрствам антыманапольнага рэгулявання і гандлю, самастойна вызначаць парадак афармлення і ўліку рахункаў пры разліках афіцыянтамі ці барменамі кліентаў-наведнікаў.

Стала магчымым выраблясць і рэалізоўваць прадукцыю з аб'ёмнай доляй спірту болей за 7% праз змешванне і настойванне гатовых алкагольных напояў з іншымі харчовымі прадуктамі. На гэта не патрэбна ліцэнзія, яна неабходная толькі для раздробавага гандлю алкаголем. Таксама гаспадарам установ грамадскага харчавання дазволілі самастойна вызначаць нацэнкі на выпрадукаваныя і прадаваныя на тэрыторыі Беларусі напоі ў разліў моцнасцю больш за 28%. З'явіўся шэраг палёгкаў што да санітарных нормаў. Напрыклад, стала магчымым выкарыстоўваць прадукцыю хатняга вырабу.

Напачатку жніўня скончылася грамадскае абмеркаванне зменаў да згаданага ўказу №345, якія падрыхтаваныя «для далейшага заахвочвання дзелавой актыўнасці ў сельскай мясцовасці». Паводле інфармацыі Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю, за перыяд дзеяння гэтага ўказу ў Беларусі адчыніліся і функцыянуюць амаль 400 аб'ектаў гандлю і 80 — грамадскага харчавання. Міністэрства па падатках і зборах паведамляе, што льготамі, прадугледжанымі ўказам, летась скарысталася больш за тысячу суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці.

З іншага боку, эфект нельга назваць надта прарыўным: агулам створана менш за 200 працоўных месцаў, а ў адчыненыя аб'екты грамхарчу залічаныя і кафетэрыі на аўтазапраўках. Да ўсяго ўказ распаўсюджваецца не на ўсю Беларусь, а ахоплівае толькі 80% сельскіх населеных пунктаў да 10 тысяч чалавек — тыя, якія вызначылі абласныя Саветы дэпутатаў. У выніку атрымаўся несправядлівы рэгіянальны перакос: напрыклад, на Гродзеншчыне гэта амаль 100% населеных пунктаў, а на Міншчыне — менш за 10%.

## Сельскі бізнес падзарадзяць

Што прапануецца ў зменах да ўказу №345? Працягнуць льготы і прэферэнцыі, прапісаныя ў ім, да 2030 года. Цяпер яны дзейнічаюць да 2023 года. Дарэчы, некаторыя ведамствы — Мінфін і Мінэканомікі — лічаць, што рашэнне аб пралангацыі льготаў трэба прымаць толькі праз некалькі гадоў, пасля аналізу плёну, які павінен даць указ на першым этапе. Гаворка вядзецца пра асаблівы рэжым падаткаабкладання ў галінах гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання з выплатай падатку на прыбытак для прадпрыемстваў у памеры 6% і адзінага падатку для індывідуальных прадпрымальнікаў у памеры адной базавай велічыні; а таксама пра вызваленне суб'ектаў гаспадарання ад падатку на дададуну вартасць, падатку на нерухомую маёмасць, зямельнага падатку і арэнднай платы за зямельныя ўчасткі, што знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці.

Чаму аб'ектаў гандлю пасля ўказу №345 з'явілася ўдвая болей, чым аб'ектаў грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання? Не толькі таму, што наладзіць такі бізнес крыху прасцей. Ва ўказе №345, як і ў дэкрэце №7, не абышлося без алкагольтаў. Алкаголь дазволілі прадаваць у крамках плошчай да 50 квадратных метраў і аўталаўках. Гаспадары крамаў кажуць, што алкагольныя напоі — ледзь не траціна абароту. Натуральна, тут можна вывесці і маралітэ, што развіццё прадпрымальніцтва стымулюецца ў тым ліку праз спойванне нацыі.

У дадатак да падаўжэння тэрміну дзеяння ранейшых ільготаў з'яўляюцца новыя. Паводле распрацаваных зменаў ва ўказ №345, уладальнікі кафэ, як і крамаў, будуць менш плаціць за электраэнергію. А гэта істотны артыкул выдаткаў на працу самага рознага абсталявання — цеплавога і лядоўняў. Паводле інфармацыі Белкаапсаюзу, плацяжы ў структуры расходаў на ўтрыманне збудаванняў, у якіх ажыццяўляецца раздробавы гандаль, складаюць 10%. Ва ўстановах грамадскага харчавання, дзе адмыслова захоўваецца і гатуецца ежа, гэты паказчык большы. Паводле МАРГу, тарыф знізяць «за кошт перакрыжаванага субсідавання, павелічэння росту расходаў на электраэнергію іншых суб'ектаў гаспадарання».

З іншых заканадаўчых ініцыятываў — выключэнне з выкарыстання ў аб'ектах грамадскага харчавання аднаразовага пластыкавага посуду. Ведамства падлічыць установы грамхарчу, дзе прымяняецца «пластык», і вывучыць акалічнасці таго, што можа замінаць іх пераходу на сталовы посуд. Гэта наступства дырэктывы, якая прадугледжвае пераход з поліэтыленавай упакоўкі на бяспечную, у тым ліку шкляную і папяровую. Дарэчы, у ЕС увесну забаранілі пластыкавыя талеркі, кубкі, кантэйнеры, відэльцы, нажы і лыжкі, якія зазвычай выкарыстоўваюцца ў фаст-фудзе. Гаворка ў тым ліку і пра кактэйльныя саломінкі, а гэта ўжо будзе тычыцца і рэстаранаў. Зрэшты, у Беларусі гэта пытанне няблізкага часу.

Міраслаў ГАЖЭЦКІ

# Афіцыянцкая «мафія»

**Ці заўсёды вы абсалютна задаволеныя наведваннем кавярні ці рэстарана — як вас накармілі і абслугоўвалі? Прапануем лайфхакі: каб эканоміць, не стаць ахвярай падману з боку афіцыянтаў і адміністратараў, быць гатовымі да маркетынгава-псіхалагічных хітрыкаў з боку рэстаранаў, а таксама як не варта сябе паводзіць і, наадварот, чаго не трэба саромецца рабіць.**

Ці задумваліся вы, чаму стравы ў меню не пазначаныя па коштавай градацыі? Гэта ж было б так зручна наведнікам! Бо мы хочам паесці не толькі смачна, але і ашчадна. Аказваецца, меню друкуюць з пэўнымі разлікамі, як вярстаюць газеты, — з акцэнтаваннем увагі кліента на пэўныя стравы. Самыя дарагія могуць абводзіцца рамкай ці вакол іх будзе больш пустой прасторы, каб кідалася ў вочы ў першую чаргу.

Таму самае галоўнае — вызначыцца з мэтай наведвання рэстарана і трымацца яе. Калі банальна паесці, то выбірайце вядомыя хадавыя стравы: будзе і танней, і чакана па смаках ды аб'ёмах. Калі гэта ў вас накшталт эстэт-культпаходу, каб пабавіць час у прыгожым месцы і разнастаіць свой рацыён, то будзьце гатовыя раскашэліцца — і да сюрпрызаў.



## Каб не плюнулі ў суп

Рэдка калі ўстановы грамхарчу падрабязна апісваюць прапанаваныя стравы: усе інгрэдыенты ці каларыйнасць. Закон гэтага і не вымагае, але вы можаце распытаць пра ежу з меню вельмі падрабязна. Будзьце ўважлівыя. Напрыклад, калі кошт рыбы ўказаны за 100 грамаў, то пацікаўцеся прыкладнай выніковай вагой таго, што вам прынясуць. Расповедныя кансультацыі акурат уваходзяць у абавязкі афіцыянта, а не толькі механічная праца «прынясі-падай-аднясі». А тое і не саромцеся ў незнаёмым месцы яшчэ на ўваходзе папрасіць меню для вывучэння. На жаль, у Беларусі чамусьці няма такой завядзёнкі, як у Заходняй Еўропе, каб вывешваць інфармацыю пра асноўныя некалькі дзясяткаў страў перад дзвярыма рэстарана. Гэта элементарная эканомія часу і наведніка, і персаналу.

Дарэчы, будзьце ветлівыя з афіцыянтамі. Як яны самі прызнаюцца, асабліва не варта сварыцца з імі з нейкай нагоды перад тым, як вам прынясуць замоўленае. Бо многія подла помсцяць за павышаны тон ці фанабэрыю. Можаце самі ўявіць, як. Могуць плюнуць у суп ці наліць піва з рэштаў-недапіткаў папярэдніх наведнікаў.

Як слушна сябе паводзіць, калі прынесеная вам страва не падобная да выявы ў меню, калі абяцаны час прыгатавання істотна пратэрміноўваецца, калі ў салаце не базілік, а шпінат, ужо не кажучы пра валасы і мух у супе?

Выказвайце прэтэнзіі! Калі, скажам, замоўленую страву мусілі прынесці праз паўгадзіны, а вы прачакалі гадзіну, то можаце смела сыходзіць, не плацячы. Калі ў салаце не зусім тая зеляніна, якая павінна быць, можна далікатна вышкандаліць сабе зніжку на яе, ці нават бясплатную замену аналагам. Калі раптам у вас форс-мажор: вы павінны ехаць па працоўных справах, а замову ўжо зрабілі? Не ўцякайце цішком і не нервуйцеся. Дамоўцеся, што заплаціце толькі за страву, якую ўжо пачалі гатаваць, а замову астатніх прасіце скасаваць.

## Чаявыя, «узятыя зморам»

Як у рэстаранах падманваюць наведнікаў і як хітруюць абсалютна законна? Вашы інтарэсы тут могуць часам нават супадаць.

Напрыклад, інтэр'ер і месцы. Нятанныя рэстараны стараюцца расстаўляць сталы-крэслы падалей адны ад адных, каб вы сядзелі як мага больш утульна і асобна ад астатніх наведнікаў. Паводле даследаванняў, людзі замаўляюць і ядуць больш, калі ніхто ў іх не ўтаропліваецца поглядам. І бавяць час тады даўжэй, замаўляюць дадатковыя стравы і напоі. Адпаведна, наадварот: фаст-фудныя ўстановы грамадскага харчавання пакідаюць менш прасторы і выкарыстоўваюць мулкія крэслы, а не мяккія. Стаўка робіцца на кліенцкую масавасць.

Калі напрыканцы застолля вам прыносяць нейкую дэсертную смачнюшку ці кілішак наліўкі, то гэты камплімент ад установы — і ветлівасць, і псіхалагічны захад. Здагадаліся, на што скіраваны? Гэта каб вы

Павел КІРЫЛАЎ

# Кухары супраць

**Поспех у рэстаранным бізнесе шмат у чым залежыць ад персаналу. Натуральна, што з вуліцы кухарам ці дырэктарам не возьмуць. Калі вы наважыліся рабіць кар'еру ў гэтай сферы, патрэбная адпаведная адукацыя. Дзе яе атрымаць? І наколькі карысныя рэстаратарам такія самадзейныя гульцы ў грамхарчы, як фудблогеры і фудхантары?**



Самае вядомае месца навучання на працоўныя спецыяльнасці — Мінскі каледж кулінарыі. Тут аж з сярэдзіны мінулага стагоддзя выпускаюць афіцыянтаў, барменаў, кухараў, кандытараў, тэхнолагаў. Кухарам розных разрадаў можна стаць, навучаючыся там, за год-два. Падчас сёлетняй абітурыенцкай кампаніі ў каледж кулінарыі конкурс быў невялікі, а недаборы надарыліся на кваліфікацыях «кухар дзіцячага харчавання», «пекар», «афіцыянт».

## О так! Я — кулінар!

Шмат якія цяперашнія шэф-кухары вядомых сталічных рэстаранаў заканчвалі ў свой час менавіта гэты каледж або падобныя ўстановы ў былым Савецкім Саюзе. Паводле іх словаў, там даюцца важныя базавыя веды, аднак падвышаць кваліфікацыю даводзілася неаднаразова — за мяжой. Дзякуючы такім удасканальванням, у тым ліку замежным стажыроўкам, проста кухар, які гатуе тыпавыя наборы страў у залежнасці ад наяўнага разраду, ператвараецца ў шэф-кухара. Менавіта «шэфы» прыдумляюць і распрацоўваюць рэцэпты, а таксама кіруюць грамхарчаўскім працэсам: ад закупу прадуктаў і прыгатавання ежы да сервіравання сталоў і падачы страў.

Між тым, у Мінскім каледжы кулінарыі заяўляюць, што робяць акцэнт на «падрыхтоўку выпускнікоў новай фармацыі, здольных жыць і працаваць у рынкавых умовах». Для гэтага адбываецца навучанне «з улікам міжнародных стандартаў WorldSkills».

Ёсць у Беларусі і іншыя сярэднія спецыялізаваныя навучальныя ўстановы, якія даюць тэарэтычную і практычную базу для працы ў галіне грамадскага харчавання. Далей можна пайсці вучыцца ў Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт харчавання на тэхнолага прадукцыі і арганізацыі грамадскага харчавання ці інжынера-механіка гандлю і грамадскага харчавання. Цікавы момант: пасля заканчэння гэтай вышэйшай навучальнай установы нескладана размеркавацца на працу ў Мінск.

Што яшчэ да акадэмічнай адукацыі і кіраўнічай менеджарскай працы ў сектары грамхарчу, то звярніце ўвагу на прапановы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта па спецыяльнасцях, звязаных з рэстаранным бізнесам.

Каб праверыць, ці грамхарч, асабліва працоўныя спецыяльнасці ў гэтай галіне, пасуюць вам, запішыцеся на адмысловыя курсы. Але абірайце тыя, на якіх у навучанне ўваходзіць практыка. Так выпрабуеце сябе ў шматгадзіннай працы на нагах пры павышанай тэмпературы, калі гаворка ідзе пра кухара.

Дарэчы, такія курсы ёсць у тым самым Мінскім каледжы кулінарыі — як дадатковая адукацыя для дарослых. Напрыклад, кухара 3-га разраду з вас зробяць за 4 месяцы, і гэта абыдзецца ў 350 рублёў. Два месяцы трэба для падрыхтоўкі афіцыянта 3-га разраду, кошт пытання — 250 рублёў.

Хапае падобных заняткаў і ў іншых месцах. Калі ж вы маеце менеджарскую эканамічную адукацыю, то вас могуць зацікавіць курсы адміністратараў ці нават дырэктараў рэстарана. Там навучаць стратэгіі кіравання рэстаранам, стварэнню эфектыўнай каманды і спосабам яе матывавання, узаемадзеяння з гасцямі, метадам падвышэння продажаў, прыманню замоваў, падачы страў і так далей.

**Самае ж спрыяльнае для кручэльстваў — банкеты. Персанал установы, які абслугоўвае ўрачыстасць, прысабечвае частку замоўленых для гасцей страў і прынесенага арганізатарамі свята алкаголю. Натуральна, у непрыкметных маштабах**



не забыліся пакінуць чаявыя або, каб даючы іх, былі больш шчодрымі.

Што да рэшты, то з ёй часта любяць марудзіць курортныя рэстараны. Разлік на тое, што ў турыста скончыцца цярплівасць чакаць свае некалькі еўра — і ён сыдзе. Так, у прынцыпе, часцяком і адбываецца. І афіцыянты гарантавана здабываюць чаявыя. Для іміджу ўстановы рызыкі няма, бо турыст відавочна сталым кліентам не стане. Напачатку ж вашага застолля будзьце асцярожныя з замоўленнем звычайнай вады — выразна кажыце пра тое, які аб'ём вам патрэбны. Бо часта прыносяць ваду ў маленькіх бутэльках ад дарагіх вытворцаў. У шумных курортных грамхарчах таксама любяць уключаць у рахунак вамі не замоўленае: разлік на тое, што на адпачынку людзі не так пільна сочаць за сваімі выдаткамі.

## Пад знакам Недаліваў

Зрэшты, тым самым займаюцца і ў беларускіх кафэ ды рэстаранах, асабліва калі туды завітваюць вялікія кампаніі добра выпіць. Іншае махлярства палягае ў тым, што замест дарагога алкаголю падчас працяглага застолля і з увагі на кандыцыю наведнікаў пачынаюць прыносіць значна таннейшы, ці разбаўляюць яго. А недаліваюць, як і не дакладаюць, яшчэ цвярозым.

Самае ж спрыяльнае для кручэльстваў — банкеты. Персанал установы грамадскага харчавання, які абслугоўвае нейкую ўрачыстасць, папросту прысабечвае частку замоўленых для гасцей страў і прынесенага арганізатарамі свята алкаголю. Натуральна, у непрыкметных маштабах. Умоўна кажучы, замест 50 бутэрбродаў выносяцца на стол 45, а замест 10 пляшак гарэлкі выстаўляюцца 9. Адсачыць гэта практычна немагчыма.

Часам афіцыянты любяць прыкінуцца, што завіс плацёжны тэрмінал або прынтар. То-бок, няма магчымасці выдрукаваць чэк і разлічыць наведніка як належыць. Тады прапануецца «чэк ад рукі» або пачакаць, калі «сістэма запрацуе». Натуральна, мала хто згодны губляць час — і разлічваецца паводле прапанаванай схемы. Затым ваша замова афіцыйна нідзе не праводзіцца. Афіцыянт папросту кладзе заплачаныя вамі грошы сабе ў кішэню. У долі можа быць кухар ці адміністратар.

Прыкладна гэтак жа можна круціць з рознымі зніжкавымі і бонуснымі праграмамі для кліентаў. Скажам, прыйшоў звычайны кліент, паеў, заплаціў, ягоны чэк адмяняецца і праводзіцца так, нібыта харчаваўся чалавек з базы кліентаў у камп'ютары, якія маюць зніжку. Розніца — даход афіцыянта. Дакладней, здабытак.

Пры такіх махлярствах афіцыянтам ці адміністратарам даводзіцца аднавіць рэстарану, напрыклад, выпіты наведнікамі алкаголь. Гэта робіцца проста: або пакупкай у краме, дзе ён будзе каштаваць нашмат танней, або праз недалівы ці празмернае накладанне ў напой лёду іншым кліентам. Тое самае з недакладаннямі ў стравы, недасыпамі арэшкаў і гэтак далей. Рука тут у афіцыянтаў ды барменаў ва ўстановах, дзе няма пільнага кантролю гаспадароў, набітая ладна.

## «Таемны пакупнік»

То-бок, церпяць ад махлярстваў і ўладальнікі грамхарчу. Калі завяліся такія камбінатары, то выручка можа падаць нават на траціну. У дапамогу гаспадарам — відэакамеры, надзейныя адміністратары з ліку сяброў ці сваякоў і з прыстойным заробкам. А таксама паслугі кшталту «таемны пакупнік».

Аўтар гэтых радкоў у свой час пабываў у такой ролі. Тады яшчэ ў Беларусі не было фірмаў, якія прапаноўвалі гэтую паслугу, і я стаў «таемным пакупніком» на замову ўкраінскай фірмы. Мэтай была праверка адной з мінскіх піцэрый: прыйсці, зрабіць замову, паесці, а затым справаздачна апісаць свой паход туды. Ад ступені ветлівасці афіцыянта да часу прыгатавання замоўленых страў. Нават папрасілі апісаць уражанне ад прыбіральні — ці прыбраная паводле графіку. Карацей, усе плюсы ды мінусы з пункту гледжання звычайнага наведніка. На 15 долараў у эквіваленце можна было паесці за выключэннем алкаголю, і яшчэ ў 15 была ацэненая мая канспіралагічная праца дзеля ўдасканалення ўстановы.

Для гаспадара кафэ ці рэстарана падобны кантроль — не толькі прафілактыка фінансавых нядобрасумленнасцяў працаўнікоў, але і клопат пра імідж установы. Цяпер часы такія, што негатыўная пагалоска і «сарафаннае радыё» сталі значна больш рэзананснымі і ўплывовымі. Правільна: дзякуючы сацыяльным сеткам і сайтам, якія акумулююць водгукі пра розныя крамы ды грамхарч. Так што мы з вамі здатныя ўздзейнічаць на тых, хто нас корміць па-за домам.

# фудхантараў

Свежаспечанаму адміністратару рэстарана ў Мінску могуць прапанаваць працу з заробкам ад 250–300 долараў. Вопытны могуць разлічваць на зарплату ад 500. У вакансіях дырэктары рэстаранаў пазначаныя ад 800 долараў.

## Паляўнічыя на ежу

Пашукаць сабе працу ў сферы грамхарчу могуць маркетолагі ды рэкламшчыкі-крэатыўшчыкі. З крэатывам у беларускіх рэстаранах не надта. Збольшага нам прапануецца панылая гастраномія. З цікавымі вонкавымі інтэр'ерамі і аздабленнямі, у тым ліку тэматычнымі, стала лепей. А вось «варушняку», анімацыяў, шоу няма. Рэстаратары кажуць, што праблема — у свабодзе. Маўляў, беларусы эмацыйна не гатовыя да рэстараннай разняволенасці. Не надта схільныя, хіба з той самай прычыны, да перформансаў і самі гаспадары грамхарчу.

У выніку беларусы захапляюцца шыльдамі рэстаранаў-бараў кшталту «Міністэрства гарэлкі і селядцу» ў Польшчы і «Мяса ды справядлівасці» ва Украіне. Асабліва ўражваюць беларускіх турыстаў львоўскія рэстараны — тая самая «Крыўка», якая створана ў стылі бункера Украінскай паўстанцкай арміі і якую наведваюць мільён чалавек на год.

Асобнымі гульцамі на рынку апошнім часам сталі фудблогеры і фудхантары (паляўнічыя на ежу). Стаць імі і ярка пісаць пра стравы ў грамхарчы, у прынцыпе, можа кожны. Дастаткова мець смартфон і акаўнт у Інстаграме.

У фудхантараў няпростыя стасункі з кафэ ды рэстаранамі. З аднаго боку, пра кошты і падачу страў пішацца суб'ектыўна — на тое і блогі, а не рэстаранная крытыка. З іншага — гаспадары грамхарчу да гэтай самай крытыкі вельмі ўразлівыя. Таму пікіроўкі ў інтэрнэце дастаткова частыя.

Вось так адна з установаў адказала на падшпільванні вядомых у Беларусі фудхантараў — гэта браты Крамары (Koko.by): «З жахам прыгадваем тыя жудасныя часіны, калі вас не існавала. Часіны, калі пра фудблогераў ніхто не чуў у нашых краях. Гэта было суцэльнае пекла — архаіка, цемра, гарачае піва і кошты па-за мяжой разумнага».

Зрэшты, самі фудхантары не хаваюць суб'ектыўнасці ў сваіх аглядах, бо пішуць перадусім для спажыўца з пункту гледжання суадносінаў «цана-якасць». Аглядаць жа яны могуць і салату ў дарагім рэстаране, і шаурму ў спальным раёне.



Фота www.justdial.com

Фудблогеры зарабляюць у сацсетках на рэкламе сярод сваіх пастоў — адкрытай і прыхаванай. Між тым, некаторыя пяршчыкі не раяць рэстаранам звяртацца да фудблогераў па такія паслугі. Маўляў, людзі не любяць рэкламы, якая нібыта не рэклама. Больш плёну будзе, калі гаспадары і менеджары рэстаранаў самі пойдуць у сацсеткі і будуць дзяліцца навінамі пра свае ўстановы і публікаваць адпаведныя фотаздымкі. Непасрэдная камунікацыя з наведнікамі вельмі каштоўная. Натуральна, ад лабавой рэкламы церпіць і кантэнт фудблогераў.

Дарэчы, фудблогерства для прыгаданых братоў — хобі. Напрыклад, Павел Крамар працуе ў галіне нерухомасці поўны працоўны дзень, і толькі ў вольны час фудблогіць і фудханціць. Так што, каму ахвота дзяліцца з людзьмі падзеямі і навінамі ў грамадскім харчаванні, спрабуйце. Ідэя: вы можаце рабіць гэта па вечарах, нават не выходзячы з дома: рабіце агляды таго, што і як прапануюць розныя службы дастаўак гатовых страваў.

Мець глыбокія спецыялізаваныя кулінарныя веды не трэба. Выданне «The Village» падчас інтэрв'ю зладзіла для Koko.by міні-іспыт. Дык вось, правільных адказаў не было дадзена на такія пытанні: што такое сумесь цукровага сіропу і міндаля (марцыпан), ці маецца кроў у medium rare стэйку (не), дзе выспявае сыр ракфор (у пячорах).

Фудблогеры Крамары кажуць, што і не маюць амбіцый, напрыклад, фармаваць густы людзей: «Мы пішам агляды з пункту гледжання базавага кліента. Наша задача — каб чалавек быў у курсе падзеяў, што адчыняюцца нейкія ўстановы, што Мінск становіцца лепшым. Гэта не азначае, што трэба суткамі жэрці шаурму, гэта не азначае, што трэба хадзіць у «Тэмпа». Ёсць мноства варыянтаў. Большасць людзей не ў курсе гэтых падзеяў. Чалавек павінен ведаць, што ёсць альтэрнатыва.

Сапраўды, выбар у рэстаранах мы з вамі робім самі. І менавіта мы ўплываем, у першую чаргу, на складанне меню ў грамхарчы, прычым з дастаткова кансерватыўных пазіцыяў. Былі эксперыменты, калі папулярную салату «Цэзар» замянялі падобнымі ці пачыналі прадаваць пад іншай назвай з тых самых інгрыдыентаў. Людзі ж пыталіся і пыталіся менавіта пра «Цэзар», і крытычная маса запытаў прымушала вярнуць гэтую страву ў меню.

«ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ» | 23 жніўня 2019 | № 31 (642) Новы Час



Фота www.m.autostat.ru

**Не бойцеся, што, калі кавярню прадаюць, то абавязкова ўцюхваюць бесперспектыўны аб’ект. Вы можаце наладзіць на яго грунце паспяховы бізнес (каб выдаткі акупіліся цягам года), усяго толькі змяніўшы нешта ў справе маркетынгу. Самае элементарнае — пачаць з набыцця вендынгавага апарату па прыгатаванні і продажу кавы, які можна купіць за некалькі тысяч рублёў**

# Як стаць рэстаратарам

Павел КІРЫЛАЎ

**Любіце кухарыць, а ўласнай пліты для вашых гастранамічных уменняў ужо замала? Хочацца мець бізнес у галіне грамадскага харчавання? Каб займець рэстаран вышэйшай катэгорыі, патрэбны агромністы стартавы капітал — сотні тысяч долараў. А вось стаць уладальнікам кавярні ці малога кафэ — рэальна і не суперзаможным беларусам.**

Людзі ж іх адкрываюць вакол і працуюць. Самых розных узростаў і прафесій. У Беларусі цяпер больш за 13 тысяч разнастайных аб’ектаў грамадскага харчавання. Але нават Мінск па іх колькасці заўважна саступае ці не ўсім еўрапейскім сталіцам (і не толькі), хаця з кожным годам бараў, кавярняў, рэстаранаў ды ўсялякага фаст-фуду робіцца больш.

Дый фармальна, паводле дзейнага дзяржаўнага сацыяльнага стандарту, быццам бы іх і дастаткова: нарматыў для нашай сталіцы вызначаны як 45 месцаў на 1000 чалавек. І ён выконваецца.

Дзякуючы зменам у заканадаўстве датычна прадпрымальніцкай дзейнасці, і ў культуры баўлення часу беларусаў, а таксама павелічэнню плыні турыстаў, цяпер спрыяльны час, каб стварыць уласную справу ў грамхарчы. Па вялікім рахунку, кошт пытання стартуе ад сумы, меншай за вартасць бюджэтнага аўтамабіля. Таму нездарма доля індывідуальных прадпрымальнікаў сярод гаспадароў аб’ектаў грамадскага харчавання за



Фота www.rgazeta.by

апошнія пяць гадоў вырасла ў разы. У 2013 годзе яна складала 0,7%, у 2016-м — 3,5%, па выніках 2018-га — ужо 6,6%.

Хоць канкурэнцыя ў гэтым сегменце малога бізнесу і ўзрасла, існуе досыць вялікая цякучка. Многія ІП трымаюцца ў іпастасі «рэстаратараў» усяго толькі якія год-два і зварочваюцца, саступаюць месца чарговым спрабавальнікам. Дык як адкрыць свой грамхарч і зрабіць яго паспяховым?

## Прыйсці на ўсё гатовае

Натуральна, патрэбная калі не прадпрымальніцкая жылка, то ініцыятыўнасць. Ёсць некалькі спосабаў уваходжання на гэты рынак.

Перадусім — саматужны. Вывучаеце сітуацыю з установамі грамадскага харчавання ў сваім населеным пункце, адпаведнае заканадаўства, тэхналагічны працэс, прыкладны каштарыс і свой бюджэт, распытваеце сяброў-знаёмых з досведам — і на старт! Схема такая самая, як і ў любым іншым бізнесе, ці то крамка, ці фірма па рамонце абутку.

Бізнес-план, бюракратычнае афармленне, арэнда памяшкання, яго рамонт пры патрэбе і аздабленне (хаця б нават шыльда), набор персаналу, закуп абсталявання (пачынаючы з касавага апарату), сыравіннай прадукцыі, выдаткі на рэкламу... Можна звярнуцца да спецыялістаў, якія аказваюць паслугі па адкрыцці фірмаў. Ёсць такія, што займаюцца менавіта рэстаранным кансалтынгам.

«Новы Час» пагутарыў з шэрагам уладальнікаў невялікіх кавярняў. І іх найпершая парада — пачынаць з бюджэтных варыянтаў. Напрыклад, прадаваць каву на вынас. А лепей за ўсё — набыць ужо гатовы бізнес.

Прапаноў вельмі шмат. У мінскіх аб’явах мы знайшлі і рэстаран-кальянную за 350 тысяч рублёў, і «Блінную» на «крутой» вуліцы Зыбіцкай за 35 тысяч, і кавяранькі ў розных гандлёвых цэнтрах за 10 тысяч. Прычыны продажу — самыя розныя: ад «у сувязі з ад’ездам за мяжу» да «не стае часу, бо развіваю іншы бізнес». Не бойцеся, што, калі кавярню прадаюць, то абавязкова ўцюхваюць бесперспектыўны аб’ект. Вы можаце наладзіць на яго грунце паспяховы бізнес (каб выдаткі акупіліся цягам года), усяго толькі змяніўшы нешта ў справе маркетынгу.

Самае элементарнае — пачаць з набыцця вендынгавага апарату па прыгатаванні і продажу кавы, які можна купіць за некалькі тысяч рублёў. Арэнда будзе невялікая, бо плошчы ён займае мізер. Пры гэтым вы можаце паралельна мець іншую працу: трэба толькі своечасова запраўляць апарат кавай, цукрам, кубачкамі і палачкамі-мяшалкамі. Калі справа пойдзе, можна развіваць сетку вендынгавых кававых апаратаў.

## Грамхарч пачынаецца з шыльды

Набываеце вы кавярню, кафэ як гатовы бізнес ці ствараеце, важны момант — месца размяшчэння «кропкі». Трэба вывучыць маштабы праходнасці лакацыі. Асабліва калі гэта спальны раён. Пажадана, каб побач былі іншыя запатрабаваныя ў пакупнікоў установы.

Самыя лепшыя і зручныя месцы ўжо, як правіла, будуць разабраныя, або для бізнес-пачаткоўца задарагія. Высокую ж стаўку арэнды ці плату за права арэнды вы непазбежна ўкладзяце ў кошт сваёй ежы і пітва, а канкураваць трэба будзе і па цэнніку. Таму, калі вы ствараеце кавярню, а не набываеце яе, варта звярнуць увагу на гандлёвыя цэнтры, якія неўзабаве будуць уведзеныя ў эксплуатацыю. Калі ж набываеце дзейную, то ацаніце, ці пасавальна для прыцягнення кліентапатоку яна знаходзіцца і пазіцыянуецца.

А маркетынг пачынаецца з шыльды і са слогану на дошцы на ўваходзе. Пакрэатыўце, але спраўдзіце, каб нікога не паўтарыць. Аўтар гэтых радкоў неяк прыдумаў файную назву для кавярні — «Кававарыўм». Але гугленне выдала шэраг такіх кавярняў на постсавецкай прасторы, у тым ліку і ў Мінску...

Нядаўна здарылася скандальная гісторыя: у сталіцы адчыніўся бар «П’яная вішня» з продажам толькі вішнёвай настойкі. Але такі бар даўно працуе ў Львове. І яго ўладальнікі абвінавачваюць мінчукоў у плагіяце, бо, апрача такой самай назвы, аднаго такога самага напою ў меню, нібыта выкарыстоўваецца нават такая самыя пляшкі ды столікі. Аказалася, што да ўкраінцаў нашы бізнесоўцы звярталіся па франшызу, а тыя адмовілі з палітычных прычынаў: маўляў, Беларусь — хаўрусніца Расіі, якая вядзе вайну ва Украіне.

Адкрыць кафэ, дзе будзе звыклае паўнавартаснае меню з супамі і салатамі, значна складаней. Толькі па персанале вам спатрэбяцца прыбіральшчык, мыйшчык посуду, кухары, афіцыянты, адміністратар і гэтак далей. Хаця апошнім часам санітарныя нормы спрасціліся, для прыгатавання хаця б дранікаў з мясам трэба мець некалькі памяшканняў: дзе чысціцца гародніца, дзе гатуецца фарш, дзе ўласна пякуцца дранікі. Плюс шмат іншых дадатковых дробязяў: напрыклад, ліцэнзія на продаж алкаголю і тытуню, якая каштуе пад паўтысячы долараў (затое бестэрміновая).

## Круціцца-вярцецца

Пра стварэнне свайго кафэ і праблемы, з якімі сутыкнуўся пры яго раскрутцы, «Новаму Часу» распавёў Пётр Жукаў з аграгарадку Верцялішкі на Гродзеншчыне. Адкрыў малады бізнесовец яго ў 2017 годзе, за паўгода да ўступлення ў сілу лібералізацыйнага ўказа №345 «Аб развіцці гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання». Але дакумент з яго шматлікімі падатковымі льготамі вельмі прыдаўся. Тым больш, што Жукаў, які ўклаў у кафэ на больш як сотню месцаў некалькі дзясяткаў тысяч рублёў, дастаткова доўгі час працаваў у страты. Капітал меў, і, адпаведна, досвед у бізнесе ад уласнай турфірмы ў Гродне.

На сельскія кафэ можна ўзяць, звярнуўшыся да мясцовых уладаў, субсідыю ў некалькі тысяч рублёў — на той самы рамонт арэндаванага памяшкання ці закуп кухоннага абсталявання. Дарэчы, зменшыць выдаткі бізнесоўцы стараюцца набыццём былога ва ўжытку.

Сябры раілі Жукаву зачыняцца, яму давялося нават перайсці на трохдзёнку. Якраз заканадаўчыя палёгкі дазволілі не ўзгадняць рэжым працы аб’ектаў грамадскага харчавання, апроч тых, якія працуюць уначы. Таксама, спрабуючы нешта мяняць, Пётр пераназваў кафэ "Прагрэс-Сіці" на "Дэжавю».

Цяпер яно працуе па буднях толькі ўдзень і зачыненае па нядзелях. Канешне, калі няма банкетных замоваў. Розныя ўрачыстасці мясцовых жыхароў — асноўны даход установы: раней ім даводзілася ездзіць для гэтага ў Гродна.

Традыцыі ж хадзіць у кафэ проста есці не з’явілася. А вось выпіваць адмысловая публіка заходзіць. Жукаў не любіць выпівохаў, але кажа, што даводзіцца трываць — дзеля бізнесу. Гаспадар «Дэжавю» спрабуе цяпер дамовіцца з навакольнымі сельскагаспадарчымі арганізацыямі («калгасамі»), каб карміць у абед тамтэйшых працаўнікоў. А паесці тут танна: «Калі прыязджае з Мінска хто, то застаецца прыемна шакаваны і якасцю кухні, і коштамі. Глядзіце: дранікі, якія гатуюцца пры вас, салата, папіць — каля 5 рублёў».

Адзначым, што канкурэнтаў у бізнесоўца ў Верцялішках няма: і калі адкрыўся, і дасюль. Сам жа ён паспрабуе неўзабаве разнастаіць свой бізнес — адкрывае салон прыгажосці. Тобок, у Верцялішках з’явіцца новыя працоўныя месцы. Гэта і ажыўленне жыцця ў сельскай мясцовасці — галоўныя сацыяльныя мэты лібералізацыі для прадпрымальнікаў.

# Ганконг — ганконгерам?

Алег НОВІКАЎ

**Акцыі пратэсту ў Ганконгу падышлі да небяспечнай рысы, калі Пекіну трэба абіраць: або маштабная паліцэйская зачыстка, або саступкі пратэстоўцам, сярод якіх набірае папулярнасць ідэя незалежнасці.**



Фота www.bloomberg.com

Масавыя пратэсты штодня праходзяць ва ўсіх кропках свету. Людзі заўсёды чымсьці незадаволеныя, і жадаюць дамагчыся справядлівасці, як яны яе разумеюць. Аднак цяперашнія маніфестацыі ў Ганконгу, безумоўна, фенаменальныя. Перш за ўсё дзівіць колькасць удзельнікаў, якая часам дасягала двух мільёнаў чалавек (у горадзе ўсяго 7 мільёнаў жыхароў).

Такая колькасць удзельнікаў акцый выходзіць на вуліцы з-за спробы Пекіну навязаць мясцовым уладам папраўкі ў закон аб экстрадыцыі. Шмат хто пабачыў у гэтым яшчэ адзін крок па скарачэнні аўтаноміі горада, якую ён атрымаў у 1997 годзе, калі вярнуўся ў склад КНР пасля 150-ці гадоў знаходжання пад кантролем брытанцаў. Між тым, у час пратэстаў заклікі ў абарону аўтаноміі ўсё часцей саступаюць месца патрабаванням поўнай незалежнасці ад Пекіну.

Ідэя незалежнага Ганконгу не новая. Пра незалежнасць тэрыторыі шмат казалі напрыканцы 1970-х гадоў, калі раптам да ўсіх дайшоў факт, што на носе 1997 год. Менавіта ў 1997-м заканчвалася арэнда брытанцамі Ганконга. Шмат каго з мясцовых жыхароў (асабліва тыя, хто збег у горад ад камуністаў) такая перспектыва не вабіла. Яны адстойвалі ідэю ўтварэння пасля 1997-га незалежнага горада-дзяржавы па мадэлі вельмі эканамічна паспяховага Сінгапура.

Незалежнікі спрабавалі (аднак беспаспяхова) дамагчыся ўдзелу ў брытана-кітайскіх перамовах наконт лёсу гораду. На тых жа перамовах праваліўся і план Маргарэт Тэтчар — стварыць з Ганконгу своеасаблівы буфер. Для кітайскага ж боку вяртанне тэрыторыі было сімвалічным актам канчатковага вызвалення ад каланіяльнай спадчыны.

Хаця падзеі 1989 года на плошчы Цяньаньмэнь моцна напалохалі жыхароў мегаполіса, рэінтэграцыя Ганконгу ў склад Кітая пасля 1997-га спачатку ішла даволі паспяхова. Антыпекінскія настроі пачалі фіксавацца толькі прыкладна 10 гадоў таму. Іх, на думку экспертаў, стымуляваў шэраг фактараў: рабочая міграцыя з мацерыка, культурная асіміляцыя, замах цэнтра на правы аўтаноміі і гэтак далей.

На гэтай глебе з'явіліся першыя распрацоўкі ідэі пра існаванне асаблівага, непадобнага на кітайцаў, калектыву «ганконгераў», які мае права сам вырашаць свой лёс. Асаблівую ідэнтычнасць ганконгцаў ад кітайцаў тлумачаць не толькі розным гістарычным вопытам, наяўнасцю ў горадзе вялікіх дыяспар з Паўднёвай Азіі, але таксама і моўным момантам. У гутарцы ганконгцы звычайна надаюць перавагу не путунхуа (афіцыйнай версіі кітайскай мовы), а так званаму кантонскаму дыялекту.

У асноўным пералічаныя тэмы піярылі студэнцкія прафсаюзы, актывісты якіх склалі авангард пратэстаў 2015-га (у прэсе іх называлі «рэвалюцыяй парасонаў»). Па выніках маніфестацый, што былі накіраваныя на захаванне аўтаноміі, пачалі стварацца структуры незалежнікаў — Нацыянальная партыя, індзейцы Ганконгу, Моладзевая інспірацыя... Найбольшую рэкламу стварыла сабе Моладзевая інспірацыя, прадстаўнікі якой былі абраныя ў парламент, і ў час прысягі дэпутатаў узнялі банер «Ганконг — не Кітай!»

Падаецца, Пекін спачатку недаацаніў патэнцыял сепаратыстаў. Інакш афіцыёз не пісаў бы з іроніяй, што іх лозунгі — гэта «палітычны жарт». Аднак паступова тон публікацый змяніўся. Цяпер у цэнтральнай прэсе заклікаюць лічыць незалежніцкія заявы крымінальным злачынствам, паколькі «гэта падобна на прапаганду нацызму ў Германіі». Таксама ў СМІ гучаць заклікі пра забарону ўдзелу сепаратыстаў у выбарах у заканадаўчыя органы аўтаноміі.

Але цяпер забарона наўрад ці будзе эфектыўнай. Ідэя незалежнасці яўна пайшла ў масы, а яе адэпты гатовыя на самыя радыкальныя ўчынкі — аж да акупацыі інфраструктурных аб'ектаў і захопу закладнікаў. Пры гэтым радыкалаў не спыняе факт ледзь не татальнай залежнасці Ганконгу ад паставак вады з мацерыка. Праект незалежнага горада таксама лёгка падарваць за кошт вываду кітайскіх кампаній з мясцовага фондавага рынку. У такім выпадку рынак страціць 37 працэнтаў сваёй капіталізацыі. Пекін можа шантажаваць горад і за кошт турыстаў. На кітайскіх турыстаў у 2017 годзе прыпадала 30 працэнтаў розьнічных продажаў у горадзе, страта якіх адразу справакуе праблемы з беспрацоўем.

Адсутнасць рэцэптаў вырашэння пералічаных праблемаў дазваляе сумнявацца, што ідэя поўнай незалежнасці займее падтрымку большасці жыхароў Ганконгу. Хаця выключаць такога сцэнару таксама нельга. У горад ужо ўвайшлі дадатковыя паліцэйскія часткі, што можа ўзмацніць эскалацыю і, адпаведна, радыкалізаваць праграму маніфестантаў. У такім выпадку, падаецца, нас чакае другі Цяньаньмэнь. Яшчэ ў пачатку ліпеня прэзідэнт Сі Цзіньпін папярэдзіў Ганконг, каб ён не пераходзіў «чырвоную лінію» падрыву суверэнітэту Кітая.

У экспертным асяроддзі, сапраўды, дапускаюць абвяшчэнне незалежнага Ганконгу, аднак бачаць гэта як вынік вельмі складаных глабальных камбінацый. Вось тыя варыянты:

1) На азіяцкім кантыненце пачнецца вялікі міжнародны крызіс з удзелам Кітая, і Ганконг скарыстаецца слушным момантам.
2) У Пекіне пры ўладзе апынецца слабае кіраўніцтва, якое страціць кантроль над сітуацыяй.
3) Ганконг страціць у вачах Пекіна вялікую каштоўнасць, і той не будзе супраць абвяшчэння суверэнітэту горада.
4) Улады горада пераканаюць КНР у тым, што Ганконг са статусам незалежнай дзяржавы больш карысны для рэалізацыі кітайскіх інтарэсаў, і не пойдзе шляхам Паўднёвай Карэі — «марыянеткі ЗША».

Яшчэ адзін шанец стаць незалежным Ганконг можа атрымаць у 2047 годзе, калі заканчваецца згаданы вышэй брытана-кітайскі дагавор аб вяртанні горада ў склад Кітая. Пасля гэтага юрыдычны статус мегаполіса можна, на думку юрыстаў, аспрэчыць. Некаторыя фракцыі незалежнікаў ужо зараз заклікаюць рыхтавацца да 2047 года, распрацаваўшы для пачатку праект Канстытуцыі незалежнага Ганконга.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Спроба рэабілітацыі Гітлера

Правыя радыкалы Германіі скарысталіся 250-й гадавінай нараджэння Напалеона, каб паспрабаваць рэабілітаваць Гітлера. На іх думку, імператар і фюрэр маюць аднолькавыя рысы: абодва спрабавалі стварыць агульную еўрапейскую дзяржаву, не кажучы пра няўдалы паход на Усход. Адсюль лагічнае пытанне: чаму немцам нельга ўшаноўваць Гітлера гэтак жа, як французы шануюць Банапарта? Такая версія выклікала адмоўную рэакцыю нават сярод некаторых нямецкіх правых гісторыкаў. На іх думку, учынкі Напалеона ўсё ж больш-менш адпавядаюць правілам эпохі. Ён прыняў тытул імператара, ажаніўся з аўстрыйскай прынцэсай і шукаў кампраміс са старымі дынастыямі Еўропы. Гітлер жа лічыў, што яже ў часы калапсу папярэдніх нормаў і правілаў, і гэта дазваляе яму рабіць усё, што заўгодна. Адсюль вар'яцкія ідэі наконт магчымасці знішчэння цэлых нацый. Наяўнасць у Гітлера нейкіх канцэптаў не дае права параўноўваць згаданыя гістарычныя персанажы.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Невядомае паўстанне

У Казахстане ўзгадалі 60-ю гадавіну паўстання ў Цеміртау — аднаго з самых вялікіх рабочых бунтаў у часы СССР. Тут незадаволенасць будаўнікоў умовамі жыцця вылілася ў сутыкненні з міліцыяй і прывяла да чалавечых ахвяраў. Умовы жыцця сапраўды былі кепскія. Некалькі тысяч рабочых пасялілі ў намётах па 30–40 чалавек. Ані электрычнасці, ані вады, ані нармальнай ежы там не было. У жніўні 1959-га незадаволенасць перарасла ў беспарадкі, падчас якіх людзі пачалі масава рабаваць крамы ў цэнтры горада. Як вынік, давялося прыцягнуць войскі, якія ўжылі зброю. Паводле падлікаў гісторыкаў, у Цемірці былі забітыя 11 чалавек і яшчэ пяць параненых памерлі ў наступныя дні. Усяго раненні атрымалі больш за сотню чалавек. Цікава, што казахскія ўлады згадваюць пра тыя падзеі вельмі сціпла, хаця ў краіне праводзіцца палітыка дэкамунізацыі. Такі падыход можна растлумачыць тым, што бунт у Цемиртау скончыўся перамогай працоўных. Пасля выступаў забеспячэнне металургаў значна палепшылася. Да восені намётавага мястэчка ўжо не было, а ў горадзе хуткімі тэмпамі сталі будаваць жылыя дамы і аб'екты інфраструктуры.

**Паводле казахскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Здымай Макрона!

Няма сумневаў, што ў французскага гаранта хапае апанентаў, якія, падаецца, знайшлі яшчэ адзін спосаб выказаць яму сваё незадавальненне. Па краіне рушыць флэшмоб Décrochons Macron (Здымем Макрона), у межах якога апазіцыянеры — галоўным чынам эколагі і абаронцы жывёлаў, — урываюцца ў афіцыйныя ўстановы, каб прыбраць з іх сценаў партрэты прэзідэнта. Кампанія пачалася яшчэ ў лютым, аднак зараз яна набыла такі маштаб, што трапіла ў фокус прэсы і грамадскасці. Высветлілася, што цяпер у 125 муніцыпалітэтах краіны няма партрэтаў гаранта, што, натуральна, падрывае прэстыж цэнтральнай улады. Гледзячы па ўсім, Парыж нарэшце вырашыў рэагаваць. Літаральна за тыдзень паліцыя схапіла 14 пратаколаў. На верасень прызначаныя першыя судовыя працэсы. Між тым, уся краіна чакае 25 жніўня, калі прыхільнікі партрэтаў Макрона плануюць зладзіць вылазку па ўсёй краіне. Варта дадаць, што ў гэтыя дні шмат пішуць, што роўна 20 гадоў таму фермер Жазэ Бавэ разбурыў у сваім горадзе рэстаран «МакДональдс» у знак падтрымкі французскіх прадуктаў. Пазітыўная ацэнка выхадкі Бавэ ў прэсе, безумоўна, таксама стымулюе працоўнікаў прэзідэнцкіх партрэтаў.

**Паводле французскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Недапалак не пакінеце?

Берлін, як і любая метраполія, — горад кантрастаў, дзе хапае і бедных людзей. На тыдні ўся іх увага была звернутая на гарадскі магістрат, які разглядаў забаўную інтэрнэт-петыцыю, аўтары якой прапанавалі нечаканае рашэнне праблемы недапалкаў. Штэфан фон Арлоў прапанаваў уладам засвоіць перадавую канцэпцыю па ўтылізацыі недапалкаў. Гэта ў тым ліку азначала неабходнасць арганізацыі збору. Як паказвае вопыт, найбольш эфектыўна проста закласці ў вытворчасць цыгарэты грошы, якія будзе атрымліваць той, хто прынясе недапалак у зборачны пункт. Такім чынам, берлінская бамжы, магчыма, будуць збіраць не толькі пустыя пляшкі і піўныя бляшанкі, але і недапалкі, з разліку адзін за 20 цэнтаў. Менавіта так прапанаваў Штэфан фон Арлоў, петыцыю якога падпісала больш за 60 тысяч чалавек. Цыгарэтная асацыяцыя Германіі скептычна паставілася да прапановы, але праблему так ці інакш вырашаць давядзецца. Штодня ў Германіі выкурваюць больш за 200 мільёнаў цыгарэт. Большасць з недапалкаў затым аказваюцца на вуліцах, газонах і, урэшце, у вадзе для спажывання.

**Паводле нямецкай прэсы**

# Змове дыктатараў — Пакт Молатава — Рыбентропа. Пачатак

Таццяна ПРОЦЬКА

**У Маскве, у Доме Расійскага гістарычнага таварыства, 14 жніўня гэтага года быў прадстаўлены новы выпуск «Весніка Архіва прэзідэнта Расійскай Федэрацыі». Ён атрымаў назву «СССР — Германія: 1932–1941».**

Зборнік падрыхтаваны ў супрацоўніцтве з фондам «Гісторыя Айчыны» і Германскім гістарычным інстытутам у Маскве. У яго ўключаны рассакрэчаныя ў 2006–2015 гадах дакументы з архіва Іосіфа Сталіна і Палітбюро ЦК УсеКП, якія быццам бы даказваюць, што ініцыятарам заключэння пакта Молатава — Рыбентропа была нацысцкая Германія, і што СССР быў вымушаны яго падпісаць для забеспячэння сваёй бяспекі.

Дырэктар Службы знешняй разведкі Расіі Сяргей Нарышкін, які прысутнічаў на прэзентацыі, адзначыў, што ў гэтых дакументах, якія тычацца савецка-германскіх перадваенных адносін, Трэці Рэйх прапанаваў Савецкаму Саюзу размежаваць сферы ўплыву. «Не жадаючы весці вайну на два франты, Германія пайшла на беспрэцэдэнтныя саступкі, каб гарантаваць савецкі нейтралітэт у польскай кампаніі», — дадаў Нарышкін, не ўдакладніўшы, на якія менавіта саступкі пайшоў Гітлер.

Новая, пуцінская версія гісторыі ўключае гонар за «мудрага Сталіна», непавагу да заходніх дэмакратый і зацвярджэнне «права моцнага» ў адносінах да краін-суседзяў. Усё гэта не столькі пра мінулае, колькі пра сучаснасць і будучыню.

А як было на самай справе?

## Задоўга да Пакту

Палітыка СССР у 1935–1936 гадах мела ў сабе афіцыйны антыфашысцкі, і ў першую чаргу, антыгерманскі складнік. Яна ўключала падтрымку дэмакратычнага і антыфашысцкага руху, саюз з Францыяй і Чэхаславакіяй, дапамогу рэспубліканскай Іспаніі. Афіцыйнымі транслятарамі гэтай палітыкі выступалі наркамы Літвінаў і Варашылаў, лідары Камінтэрна — Дзімітраў і Мануільскі. Аднак быў і неафіцыйны складнік — прапрацоўка магчымага пагаднення з Германіяй. Гэта былі місіі Кандэлакі (у 1936–1937 гадах) і Тухачэўскага (у 1936 годзе). Ініцыятывы Тухачэўскага і Кандэлакі па ўсталяванні кантактаў паміж кіраўніцтвам СССР і Германіі ажыццяўляліся з ініцыятывы Сталіна.

Былы член ЦК КПСС, герой Савецкага Саюза, былы ваенны разведчык пісьменнік Уладзімір Карпаў пісаў, што бачыў дакументы, якія сведчаць: Сталін даў згоду Берыі на ўсталяванне супрацоўніцтва НКУС і Гестапа, і дакументы, якія пра змест гэта супрацоўніцтва распавядаюць. Расійскі гісторык, доктар гістарычных навук Міхаіл Семірага сцвярджае, што яшчэ раней паміж паслом Германіі і міністрам замежных спраў СССР была заключаная дамоўленасць пра спыненне нападак на дзеянні кіраўніцтва абодвух бакоў на радыё і ў прэсе.

Пра пачатак супрацоўніцтва з Германіяй пісаў Троцкі 5 сакавіка 1938 года ў артыкуле «Таемны саюз з Германіяй», апублікаваным у «Нью-Ёрк Таймс».

«Ваеннае ведамства, на чале якога я стаяў, пачало ў 1921 годзе рэарганізацыю і пераўзбраенне Чырвонай Арміі, якая з ваеннага становішча пераходзіла на мірнае. Вельмі зацікаўленыя ў павышэнні ўзроўню ваеннай тэхнікі, мы маглі ў той перыяд чакаць садзейнічання толькі з боку Германіі. З іншага боку, Рэйхсвер, пазбаўлены Версальскай дамовай магчымасцяў развіцця, асабліва ў галіне цяжкай артылерыі, авіяцыі і хіміі, натуральна, імкнуўся выкарыстоўваць савецкую ваенную прамысловасць як доследнае поле для ваеннай тэхнікі. Шэраг нямецкіх канцэсій у Савецкай Расіі адкрыўся яшчэ ў той перыяд, калі я быў цалкам паглынуты Грамадзянскай вайной. Найважнейшай з іх па сваіх магчымасцях ці, дакладней, па надзеях на яе, з’яўлялася канцэсія авіяцыйнай кампаніі «Юнкерс». Вакол гэтых канцэсій круцілася пэўная колькасць афіцэраў. У сваю чаргу, асобныя прадстаўнікі Чырвонай Арміі наведвалі Германію, дзе знаёміліся з арганізацыяй Рэйхсверу і з той часткай нямецкіх вайсковых «сакрэтаў», якія ім паказвалі», — пісаў Троцкі.

«Уся гэтая праца вялася, зразумела, пад покрывам таямніцы, бо над галавой Германіі вісеў дамоклаў меч Версальскіх абавязацельстваў. Афіцыйна берлінскі ўрад не прымаў у гэтай справе ніякага ўдзелу, і нават як бы не ведаў пра яго: фармальная адказнасць ляжала на Рэйхсверы з аднаго боку, і Чырвонай Арміі — з другога. Усе перамовы і практычныя крокі здзяйсняліся ў строгай таямніцы. Але гэта была таямніца галоўным чынам ад французскага ўрада — як найбольш непасрэднага суперніка», — дадаваў ён.

«Таямніца, зразумела, доўга не пратрымалася. Агентура Антанты, перш за ўсё Францыі, без цяжкасцяў устанавіла, што пад Масквой маюцца авіяцыйныя завод «Юнкерс» і некаторыя іншыя прадпрыемствы. У Парыжы надавалі нашаму супрацоўніцтву з Германіяй, несумненна, перабольшанае значэнне. Сур’ёзнага развіцця яно не атрымала, бо ні ў немцаў, ні ў нас не было капіталаў. Да таго ж узаемны недавер быў занадта вялікі. Аднак напаўсяброўскія сувязі з Рэйхсверам захаваліся і пазней, пасля 1923 года, калі Красцінскі стаў амбасадарам у Берліне», — распавёў Троцкі.



Падпісанне пакту

Вельмі цікавыя матэрыялы па гэтым пытанні ўтрымліваюцца ў замежных архівах: у прыватнасці, у калекцыі Мікалаеўскага ў Гувераўскім інстытуце ў ЗША. Гісторык Юры Фяльштынскі надрукаваў частку гэтых матэрыялаў — лісты былых дзеячаў савецкай дзяржавы, якія эмігравалі з СССР. Вось што пісаў меншавік і эканаміст Валянцінаў-Вольскі ў лісце Абрамовічу, аднаму з лідараў меншавіцкай партыі: «Калі я прыехаў летам 1927 года ў Ліпецк, знайшоў яго поўным немцаў, што вельмі мяне здзівіла, а ў небе над горадам было столькі лятучых аэрапланаў, колькі я ў гэты час не бачыў і ў Маскве. У Ліпецку былі арсеналы і аэраангары немцаў, што ахоўваліся ДПУ. Усе абывацелі ведалі пра гэта, але ніхто не адважваўся пра тое казаць, — такіх ДПУ арыштоўваў. На могілках у Ліпецку быў цэлы кут з помнікамі ў гонар загінулых немцаў-авіятараў».

Рознагалоссі па пытанні савецка-германскіх адносін былі адной з прычын канфлікту паміж Сталіным і Бухарыным. «На пазіцыю Бухарына вялікі ўплыў аказалі пытанні знешняй палітыкі, — пісаў Мікалаеўскі. — Менавіта на іх ён парваў са Сталіным: Бухарын у 1926 годзе прыйшоў да высновы, што Германія перастала быць краінай, якая знаходзіцца ў паўкаланіяльным становішчы. Памятаеце артыкулы Бухарына 1926–1927 гадоў у «Праўдзе», калі ён даводзіў, што пасля Лакарна Германія перастала быць эксплуатаванай краінай? Бо гэта — супраць Сталіна. Сталін трымаўся за саюз з Рэйхсверам... Менавіта з гэтага моманту пачынаецца чыста сталінская гульня сакрэтных агентураў — двойчы падпольная». Фішэр пісаў Мікалаеўскаму: «Перамовы з Францыяй і Англіяй былі адкрытымі. Перамовы з Германіяй — таемнымі. Калі б Сталін хацеў прыйсці да пагаднення з Англіяй і Францыяй, ён паступіў бы процілеглым чынам: вёў бы адкрытыя перамовы з Гітлерам, каб гэтым аказаць ціск на Захад для выбівання яшчэ большых саступак. Але Захаду не было чаго аддаць. Яны не маглі аддаць прыбалтыйскія дзяржавы, і пагадненне з Захадам для СССР азначала вайну, у той час як пагадненне з Гітлерам азначала адсутнасць вайны на працягу нейкага часу і імперыялістычную экспансію — якраз тое, што хацеў Сталін».

Ёсць яшчэ дзве акалічнасці, пра якія, як правіла, рэдка згадваюць у сувязі з падпісаннем Пакта. Гэта адносіны СССР і Японіі і рэпрэсіі ў СССР. Гісторыкі сцвярджаюць, што знешнепалітычныя мэты Японіі палягалі ў захопе савецкага Далёкага Усходу. На працягу 1936–1938 гадоў на савецкай далёкаўсходняй мяжы адбылося 35 буйных ваенных сутыкненняў з японскімі войскамі, самым сур’ёзным з якіх было сутыкненне ў канцы ліпеня 1938 года ў раёне возера Хасан. Толькі ў выніку жорсткіх баёў, якія доўжыліся да 9 жніўня, савецкая тэрыторыя была ачышчаная ад японцаў. У траўні 1939 года Японія пачала вайну супраць Манголіі (і ўскосна — супраць СССР). Ваенныя дзеянні на рацэ Халхін-Гол працягваліся чатыры месяцы і скончыліся ўжо пасля падпісання пакта ў жніўні 1939 года — дзякуючы, у тым ліку, і пасярэдніцтву Гітлера.

Паводле дакументальна пацверджаных дадзеных, у 1937–1938 гадах па палітычных матывах былі асуджаныя 1344923 чалавекі, з іх 681692 — да вышэйшай меры пакарання. На 1 сакавіка 1940 года, па дадзеных цэнтралізаванага ўліку ў ГУЛАГу, змяшчалася 1668200 чалавек, з іх у калоніях — 352000 чалавек. Столькі каштавала савецкім людзям падрыхтоўка да Пакту — ачыстка СССР ад магчымай «5-й калоны».

## Таемная гульня

Украінскі пісьменнік, даследчык гісторыі Станіслаў Цалік зрабіў амаль пагадзінную рэканструкцыю падзей 1939 года. Ён вызначыў, што ў траўні 1939-га ў Маскве пачаліся трохбаковыя перамовы з Англіяй і Францыяй аб саюзе супраць Гітлера. Справы прасоўваліся хутка — у жніўні ваенныя місіі трох краін абмяркоўвалі заключэнне ваеннай канвенцыі ў выпадку нямецкай агрэсіі.

Нечакана 21 жніўня ў 17 гадзін 25 хвілін савецкі бок спыніў перамовы. Брытанцы і французы ўсё зразумелі толькі праз некалькі гадзін — у 23 гадзіны 15 хвілін радыё Берліна, перапыніўшы вячэрнюю праграму, паведаміла: «Імперскі ўрад і савецкі ўрад пагадзіліся заключыць пакт аб ненападзе. Імперскі міністр замежных спраў прыбудзе ў Маскву ў сераду, 23 жніўня, для завяршэння перамоваў».

У пачатку ліпеня 1939 года Гітлер загадаў камандаванню Вермахта рыхтавацца да баявых дзеянняў — было вырашана атакаваць Польшчу. Нямецкія дыпламаты запрасілі некалькіх работнікаў савецкага пасольства ў Берліне ў рэстаран. На канфідэнцыйнай вячэры, якая прайшла 26 ліпеня, ім далі зразумець, што ў выпадку нейтралітэту Масква можа разлічваць на пэўныя тэрыторыі Усходняй Еўропы. Менавіта гэты аргумент схіліў Сталіна на бок Германіі (Францыя і Вялікабрытанія не пагаджаліся з тэрытарыяльнымі прэтэнзіямі СССР).

19 жніўня Сталін даслаў у Берлін праект будучага пагаднення з удакладненнем: «Дамова набывае моц толькі ў выпадку адначасовага падпісання спецыяльнага пратакола па знешнепалітычных пытаннях, што ўяўляюць цікавасць для Высокіх Дагаворных Бакоў».

На наступны дзень амбасадар Германіі ў Маскве гарантаваў Сталіну падпісанне сакрэтнага пратаколу — у савецкую зону ўплыву адыдуць Усходняя Польшча, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Бесарабія. Пасол падкрэсліў гатоўнасць Германіі «ісці насустрач пажаданням Савецкага ўрада».

21 жніўня а 15:00 Сталін атрымаў асабістае прывітанне Гітлера. Праз дзве гадзіны ён адказаў, што згодны прыняць Рыбентропа 23 жніўня. Праз 25 хвілін перамовы з Францыяй і Брытаніяй спыніліся.

22 жніўня савецкія газеты апублікавалі паведамленне

# 80 гадоў



**Карыкатура з польскай газеты «Муха» 8.09.1939. Ва ўдзячнасць за пакт Рыбентроп цалуе руку Сталіну**

ТАСС пра намер СССР і Германіі «разрадзіць напружанасць у палітычных адносінах паміж імі, ліквідаваць пагрозу вайны і заключыць пакт аб ненападзе. У сувязі з гэтым днямі павінен быў адбыцца прыезд нямецкага міністра замежных спраў сп. фон Рыбентропа ў Маскву для адпаведных перамоваў».

На наступны дзень Рыбентроп прылялеціць у Маскву. У 15:30 ён сустрэўся са Сталіным і Молатавым — перамовы працягваліся тры гадзіны. «Пры абмеркаванні высветлілася, — тэлеграфаваў ён у Берлін у 20 гадзін 05 хвілін, — што апошняй перашкодай для канчатковага рашэння будзе патрабаванне рускіх прызнаць, што парты Лібаву і Віндава ўваходзяць у іх сферу інтарэсаў».

Гітлер загадаў пагадзіцца і, не чакаючы падпісання, прызначыў тэрмін нападу на Польшчу: 26 жніўня, палова пятай раніцы. Перамовы ў Крамлі аднавіліся ў 22 гадзіны і завяршыліся падпісаннем савецка-нямецкага пагаднення і таемнага пратаколу. Абодва дакументы датаваныя 23 жніўня.

На наступны дзень паведамленне пра дамову паміж СССР і Германіяй надрукавалі галоўныя савецкія газеты «Правда» і «Известия» — але без згадкі пра сакрэтны пратакол са «сферамі ўплыву». У гэты ж дзень у 13 гадзін 25 хвілін Рыбентроп вылецеў у Берлін.

25 жніўня Вялікабрытанія заключыла ваенны саюз з Польшчай. Гітлер, відаць, такога не чакаў, — і перанёс наступ на Польшчу на 1 верасня.

1 верасня Германія напала на Польшчу. Праз два дні Вялікабрытанія і Францыя абвясцілі Германіі вайну — але баявых дзеянні не пачалі. СССР на працягу двух тыдняў прытрымліваўся нейтралітэту.

## Пасля Пакту

Вярхоўны Савет СССР ратыфікаваў савецка-германскі дагавор 31 жніўня 1939 года, пры гэтым дэпутаты не былі пастаўлены ў вядомасць пра існаванне дадатковага сакрэтнага пратаколу. 1 верасня, на наступны дзень пасля ратыфікацыі, германскія войскі ўварваліся ў заходнія раёны Польшчы. 17 верасня Чырвоная Армія ўвайшла ва ўсходнія раёны Рэчы Паспалітай.

28 верасня 1939 года тэрытарыяльны падзел Польшчы завяршыўся падпісаннем германа-савецкага дагавора аб сяброўстве і мяжы (пад тэкстам дакумента таксама стаяць подпісы наркама Молатава і міністра фон Рыбентропа). Дагавор аб сяброўстве меў адзін канфідэнцыйны і два сакрэтных дадатковых пратаколы, у якіх карэктаваліся сферы інтарэсаў СССР і Германіі — у прыватнасці, тэрыторыя Літвы, акрамя Сувалкскага раёна, пераходзіла ў сферу ўплыву Савецкага Саюза.

30 лістапада 1939 года пачалася савецка-фінская вайна, па выніках якой да СССР адышла паўночная частка Карэльскага перашыйку, уключаючы гарады Выбарг і Сортавала. У чэрвені 1940 года савецкія войскі ўвайшлі ў Эстонію, Латвію, Літву і шэраг рэгіёнаў Румыніі — Бесарабію, Паўночную Букавіну і вобласць Герца.

Яшчэ ў 1938 годзе, выступаючы перад прапагандыстамі Масквы і Ленінграда, Сталін тлумачыў: бальшавікі не пацыфісты, і ў некаторых выпадках самі могуць стаць нападаючым бокам. У праекце Палявога статута РККА 1939 года, у яго варыянтах 1940 і 1941 гадоў асноўны прыярытэт аддаваўся наступальным баявым дзеянням. Тэрмін «наступальная вайна» быў зафіксаваны ў ідэалагічных дакументах траўня-чэрвеня 1941 года, што рыхтаваліся прапагандысцкімі структурамі.

Гісторыкі лічаць, што прынцыповае рашэнне пра разрыў са Сталіным Гітлер прыняў у час візіту Молатава ў Берлін у канцы 1940 года. Молатаў запатрабаваў тады ад немцаў згоды на савецкую акупацыю Румыніі, Балгарыі і Фінляндыі. Гітлер рашуча адмовіўся і падпісаў дырэктыву пра напад на СССР.

Расійскі гісторык Барыс Сакалоў лічыць, што СССР сам рыхтаваўся да вайны з Германіяй летам 1940 года — калі апошняя паслабее ад ваенных дзеянняў з Францыяй і Вялікабрытаніяй. «На мой погляд, Сталін рыхтаваў напад на Германію дзесьці ўлетку 1940 года. Гэта значыць, ён разлічваў, што германскія войскі, пачаўшы генеральнае наступленне на Францыю, угразнуць на лініі Мажыно, і праз некалькі тыдняў ён зможа ўдарыць ім у спіну на савецка-германскай дэмаркацыйнай лініі. А там у той момант было толькі адзінаццаць германскіх дывізій супраць амаль ста савецкіх».

«Акрамя таго, я думаю, што ў рамках падрыхтоўкі вайны з Германіяй былі расстраляныя польскія афіцэры і прадстаўнікі інтэлігенцыі ў Катыні і ў іншых месцах — усяго каля 25 тысяч чалавек. Гэта адбылося ў красавіку — пачатку траўня 1940 года, а рашэнне пра гэта на ўзроўні Палітбюро было, як вядома, прынятае 5 сакавіка. Гэта значыць, калі б пачалася вайна Савецкага Саюза і Германіі, то польскі ўрад, які на той момант знаходзіўся ў Францыі, стаў бы саюзнікам СССР, і гэтаму ўраду прыйшлося б аддаваць польскіх афіцэраў. Тады паўстала б непадкантрольная Сталіну польская армія, чаго ён дапусціць не мог. Тады ён вырашыў спешна расстраляць польскіх афіцэраў», — мяркуе Сакалоў.

«Пра гэта сведчыць пастанова Палітбюро ад 4 чэрвеня 1941 года аб фармаванні да 1 ліпеня 238-й дывізіі Чырвонай Арміі з палякаў і асоб, якія ведаюць польскую мову. Польская дывізія, акрамя як для вайны з Германіяй, ні для чаго іншага патрэбная не была. А значыць, дзесьці ў ліпені збіраліся напасці на Германію... Сталін лічыў, што Гітлер нападзе на СССР толькі ў 1942 годзе, а да гэтага паспрабуе высадзіцца ў Англіі і скончыць з ёю. А Гітлер дапускаў, што Сталін можа напасці і ў 1941-м, таму ён спяшаўся з аперацыяй «Барбароса», і прызначыў яе спачатку на 15 мая, а потым — на 22 чэрвеня 1941 года», — пісаў Сакалоў.

Замест таго, каб кіравацца палітыкай абароны на набытых тэрыторыях — у краінах Балтыі, Паўночнай Букавіне і Бесарабіі, а таксама ва Украіне і Беларусі, — Сталін, як сцвярджае «наступальны» кірунак у гістарыяграфіі (прыхільнікі версіі першага нападу з боку СССР), разгарнуў там галоўным чынам войскі, гатовыя да нападу. Яны складаліся ў асноўным з паветрана-дэсантных войскаў і механізаваных дывізій. Гэтыя часткі былі навучаныя і ўзброеныя для таго, каб выконваць імклівыя ўдары і глыбокае пранікненне ў тыл праціўніка. Такая тактыка была выкарыстана падчас ваенных вучэнняў пад кіраўніцтвам Жукава, якія праводзіліся ў Савецкім Саюзе ў 1940–1941 гадах. Жукаў ужыў яе ў баях супраць японцаў на Халкін-Голе (Манголія) у жніўні-верасні 1939 года, дзе ён кіраваў савецкімі войскамі.

15 траўня 1941 года быў падрыхтаваны важны дакумент — «Меркаванні па плане стратэгічнага разгортвання сіл Савецкага Саюза на выпадак вайны з Германіяй і яе саюзнікамі». Ён быў пабудаваны ў форме мемарандума, пад назвай «Старшыні Савета Народных Камісараў СССР таварышу Сталіну». Дакумент быў напісаны намеснікам начальніка Генштаба генералам Васілеўскім пад кіраўніцтвам Жукава.

«Улічваючы, што Германія цяпер трымае сваё войска адмабілізаваным, з разгорнутымі тыламі, яна мае магчымасць апярэдзіць нас у разгортванні і нанесці раптоўны ўдар. Каб прадухіліць гэта, лічу неабходным ні ў якім разе не даваць ініцыятывы дзеяннням германскаму камандаванню, апярэдзіць суперніка ў разгортванні і атакаваць германскую армію ў той момант, калі яна будзе знаходзіцца ў стадыі разгортвання і не паспее арганізаваць фронт і ўзаемадзеянне родаў войскаў», — указвалася ў дакуменце.

СССР пабудаваў на перадавых пазіцыях ля самай мяжы ваенныя аэрадромы, якія маглі быць выкарыстаны для правядзення тактычных і стратэгічных паветраных нападаў, што дазволіла б захапіць немцаў знянацку. Менавіта яны былі знішчаны нямецкімі войскамі ў першую чаргу пасля нападу, які пачаўся ў нядзелю ў 3 гадзіны ночы 22 чэрвеня 1941 года. Знамянальна, што ўсё савецкае найноўшае ўзбраенне і лепшыя навучаныя салдаты — фактычна дзве траціны ўсяго складу Чырвонай Арміі таго часу — былі разгорнутыя ў заходніх прыфрантавых раёнах: у БССР у пяці заходніх прыгранічных акругах дыслакаваліся 56,1% частак сухапутных войскаў з 3 060 160 салдат.

Узброеныя сілы Савецкага Саюза ва ўмовах распачатай вайны ў Еўропе працягвалі павялічвацца і да лета 1941 года сталі найбуйнейшай арміяй свету.

***

Для БССР падзеі, звязаныя з Пактам, мелі асаблівае значэнне. Мелі яны наступствы і для свету. У 50-ю гадавіну падпісання пакта Молатава —Рыбентропа — 23 жніўня 1989 года, — жыхары Літвы, Латвіі і Эстоніі, узяўшыся за рукі, утварылі жывы ланцуг, які працягнуўся ад Вільні да Таліна — каля 600 кіламетраў; у акцыі ўдзельнічалі амаль 2 мільёны чалавек. Тая акцыя стала пачаткам развалу СССР.

Еўрапейскі парламент 2 красавіка 2009 года прыняў Дэкларацыю пра дзень памяці ахвяр сталінізму і нацызму (адзначаецца 23 жніўня, у дзень падпісання Пакта). У падтрымку рашэння Еўрапарламента 3 ліпеня таго ж года Парламенцкая асамблея АБСЕ прыняла Рэзалюцыю «Аб уз'яднанні падзеленай Еўропы: заахвочванне правоў чалавека і грамадзянскіх свабодаў у рэгіёне АБСЕ ў XXI стагоддзі». У дакуменце было зазначана, што мэта ўвядзення штогадовага агульнаеўрапейскага Дня памяці ахвяраў сталінізму і нацызму — перашкодзіць узвялічванню нацысцкага і сталінскага мінулага і прадухіліць з'яўленне неанацысцкіх рэжымаў.

Рэзалюцыя асуджала любыя формы таталітарнага праўлення незалежна ад іх ідэалагічнай асновы і заклікала краіны-ўдзельніц працягваць і заахвочваць вывучэнне таталітарнай спадчыны, а таксама павялічваць узровень дасведчанасці грамадскасці аб таталітарнай гісторыі. Рэзалюцыя выказала занепакоенасць з нагоды ўсхвалення таталітарных рэжымаў, уключаючы правядзенне публічных дэманстрацый у адзначэнне нацысцкага або сталінісцкага мінулага, заклікала (у тэксце «папрасіла») краіны-ўдзельніцы цалкам пазбавіцца ад структур і мадэляў паводзінаў, якія імкнуцца падфарбаваць мінулае гэтых краін. Беларусі — краіне-чальцу АБСЕ — варта гэта памятаць.

Для тых, хто зацікавіцца праблемай і захоча больш глыбока ўнікнуць у гісторыю на ўзроўні дакументаў, раю азнаёміцца з матэрыяламі зборніка «Оглашению подлежит. СССР–Германия, 1939–1941. Документы и материалы. Фельштинский Юрий Георгиевич» https://history.wikireading.ru/146561. А на ўзроўні цікавага аповеду — кнігі Віктара Суворава "Ледокол" і «День М».

**Працяг будзе**



**«Сталін разлічваў, што германскія войскі, пачаўшы наступленне на Францыю, угразнуць на лініі Мажыно, і ён зможа ўдарыць ім у спіну на савецка-германскай дэмаркацыйнай лініі. А там было толькі адзінаццаць германскіх дывізій супраць амаль ста савецкіх»**

# Бог адзін. Толькі чаму Ён рускі?

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Свая царква — шлях да незалежнасці дзяржавы. Гэтая тэза стала асноўнай падчас міжнароднай канферэнцыі «Беларуская інтэлігенцыя ў падтрымку Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы», якая 17 жніўня адбылася ва ўкраінскім Чарнігаве.**



Фота НЧ

Беларуская аўтакефальная царква ў самой Беларусі цяпер знаходзіцца ў нелегальным становішчы. Таму форум, які сабраў каля паўтары сотні дэлегатаў, можна назваць беспрэцэдэнтным. Сімвалічна, што канферэнцыю, ініцыяваная Рухам салідарнасці «Разам», праходзіла ва Украіне, якая нядаўна дамаглася прызнання незалежнай царквы. Але за гэтым вынікам стаяла вялікая праца, якая пачалася стагоддзі таму.

«Мэта царквы — каб чалавек быў вольны, але ні ў якім разе не рабом. Ён можа быць толькі рабом Божым, але не нейкага чалавека на кіроўнай пасадзе. Але, на жаль, царква ва Украіне і Беларусі — імперская, і яна давадзіць, што народ — раб пэўнага пана», — адзначыў у вітальным слове сакратар епархіяльнага кіравання Чарнігаўскай епархіі ПЦУ айцец Раман Кінык.

Лідар Руху салідарнасці «Разам» Вячаслаў Сіўчык зазначыў, што часам людзі ўжо не вераць у перамогу. Але заўсёды ёсць знакі, якія ўсяляюць надзею на гэта. Ён згадаў пра тое, што сёлета ў Беларусі знайшлі магілу пісьменніка Яна Баршчэўскага, дзякуючы якому ў многім мы захавалі сваю аўтэнтычнасць. Пройдзе яшчэ сто гадоў — і выбухне Беларуская Народная Рэспубліка, перакананы Вячаслаў Сіўчык. «У беларусаў шмат зброі. Наша зброя — гэта Кастусь Каліноўскі. Наша сіла — гэта святары і вернікі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, якія не здрадзілі сваёй веры».

### Вытокі беларускай аўтакефаліі

Для таго, каб ахапіць такую маштабную тэму, як Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, аднаго дня канферэнцыі аказалася катастрафічна недастаткова. Толькі некалькі выступоўцаў з амаль двух дзясяткаў экспертаў з Беларусі, Украіны, Польшчы і ЗША паспелі агучыць свае даклады больш-менш поўна.

Доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Лыч закрануў тэму вытокаў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Ён зазначыў, што яшчэ да таго, як з'явілася слова «аўтакефалія», наша царква была незалежнай. Гэта была Полацкая епархія, створаная ў 992 годзе — праз два гады пасля таго, як была створана Кіеўская мітраполія з дазволу Канстанцінопальскага патрыярха.

У пачатку XIV стагоддзя на нашай тэрыторыі ўжо існавала ВКЛ, і княству патрэбная была свая ўласная царква. Праваслаўная царква ВКЛ імкнулася быць незалежнай ад Масквы. У 1316 годзе з ініцыятывы Гедыміна ў нас утварылася ўласная мітраполія. Яна таксама называлася Кіеўскай. Таму, пры іншым дзяржаўна-палітычным становішчы, тры гады таму мы маглі б адзначыць 700-годдзе ўтварэння на тэрыторыі ВКЛ аўтаномнай праваслаўнай царквы.

Праўда, часы для існавання праваслаўнай царквы былі неспрыяльныя. Пасля Крэўскай уніі на нашы тэрыторыі пачаў насядаць каталіцызм. Яго еўрапейская форма не наносіла шкоды, але калі ён набыў польскія рысы, то пачалася паланізацыя.

У дадатак да гэтага ў 1549 годзе з'явілася Маскоўская мітраполія, а ў 1589 годзе супраць волі Канстанцінопальскага патрыярха ўзнікла Маскоўская патрыярхія. Набыўшы такі аўтарытэт, яна стала моцна ўплываць на праваслаўнае жыццё Вялікага Княства.

І ў гэтай сітуацыі было знойдзена ідэальнае рашэнне: заключэнне Берасцейскай царкоўнай уніі, якая выратавала нашы народы ад уплыву польскага каталіцызму і Маскоўскага патрыярхату.

Калі Леанід Лыч выводзіць ідэю незалежнай царквы з часоў ВКЛ, то святар Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы з Мінска Леанід Акаловіч адзначае, што гісторыю беларускай аўтакефаліі можна адлічваць з розных часоў — напрыклад, з 1922 года, калі паўстала Беларуская мітраполія ў Мінску. Але святар прытрымліваецца іншага меркавання. Калі сталі зразумелыя намеры Расіі захапіць не толькі ВКЛ, але і Польшчу, паўстала Пінская кангрэгацыя 1791 года, якая і дае пачатак ідэі аўтакефаліі.

Таццяна Працька зазначыла, што цэлае пакаленне беларускіх людзей вырасла з верай у тое, што аўтакефалія — нешта негатыўнае і нават фашысцкае. Бо аўтакефалію яшчэ звязваюць і з нацыяналізмам. У савецкага чалавека гэтае слова выклікае негатыўны сэнс, але ў навуковым сэнсе нічога негатыўнага нацыяналізм не нясе. Сапраўды, аўтакефальная царква заўсёды ішла поруч з беларускай нацыянальнай ідэяй — і гэта паўплывала на яе драматычны лёс.

### Незалежная царква ці незалежная дзяржава?

«Толькі Лукашэнка памахае — і будзе аўтакефалія, а Фёдар Поўны будзе галоўным аўтакефалістам», — перакананы святар БПЦ МП Аляксандр Шрамко. Іншая справа, што беларуская дзяржава — пратэктарат Расіі, і нават пры жаданні беларускія ўлады не могуць займець сваю царкву. Таксама святара абурае, што незалежную царкву бачаць сродкам для дасягнення незалежнай дзяржавы, а не наадварот. Чаму б не займець незалежную дзяржаву, каб стварыць незалежную царкву?

«Аўтакефалія павінна быць у галовах, фармавацца знутры, а мы шукаем яе звонку», — зазначыў святар.

Як ні паварні, і Беларусь, і Украіна мусяць супрацьстаяць аднаму ворагу — расійскай інтэграцыі, прычым як у фізічным, вайсковым, так і ў духоўным сэнсе. Бо зараз у свядомасць нашых людзей укладваецца тое, што выжыць мы зможам толькі з Расіяй і рускім праваслаўем. Але, як трапна напісаў у сваім вітальным слове ўдзельнікам канферэнцыі паэт Уладзімір Някляеў са Швецыі: «Бог адзін. Толькі чаму Ён рускі?»

# БагатаДата

**Аказваецца, у нас магло быць у тыдні пяць дзён — чатыры працоўных і адзін выходны. А лётчык Сяргей Грыцавец быў першым двойчы героем Савецкага Саюза. Больш цікавостак — у нашым аглядзе.**

### 24 жніўня

**1654.** Адбылася бітва пад Шапялевічамі (цяпер Круглянскі раён на Магілёўшчыне). Гэта быў пачатак вайны паміж Рэччу Паспалітай і Масковіяй 1654–1667 гадоў — так званай Невядомай вайны, самай вынішчальнай у гісторыі Беларусі, пра якую за савецкім часам замоўчвалася. Войскі Рэчы Паспалітай у бітве пад Шапялевічамі былі разбітыя, гетман Януш Радзівіл паранены, пачалася маскоўская акупацыя тэрыторыі нашай краіны.

**1949.** У вёсцы Моладава Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці нарадзіўся Пётр Брыгадзін, гісторык, міністр адукацыі Беларусі ў 2001–2003 гадах, а да гэтага рэктар Акадэміі кіравання пры прэзідэнце, а яшчэ раней рэктар Рэспубліканскага інстытуту вышэйшай школы.

**1959.** Прынятая пастанова Саўміну БССР пра выраб на базе завода газавай апаратуры бытавых лядоўняў. Так паўстаў Мінскі завод халадзільнікаў — цяпер «Атлант». Першая лядоўня «Мінск-1» была выпушчана ў 1962 годзе.

### 25 жніўня

**1899.** У горадзе Невель (тады Віцебская губерня, а цяпер Пскоўская вобласць Расіі) нарадзіўся кінарэжысёр Эдуард Аршанскі. 1932 годзе ён паставіў адзін з першых беларускіх гукавых фільмаў — «Баям насустрач», прысвечаны жыццю сельскіх школьнікаў.

### 26 жніўня

**1929.** У СССР і, адпаведна, у Беларусі быў скасаваны сямідзённы тыдзень — і ўведзены пяцідзённы (чатыры працоўныя дні і за імі выходны дзень). Але такая каляндарная рэформа, галоўнай мэтай якой было разбурэнне звыклага хрысціянскага цыклу, не прыжылася. Спачатку тыдзень стаў шасцідзённым, а затым і зноў сямідзённым.

### 28 жніўня

**1744.** Памёр кіраўнік антыфеадальнага ўзброенага паўстання сялян у Крычаўскім старостве Рэчы Паспалітай у 1740-х гадах Васіль Вашчыла. Пасля разгрому паўстанцаў Вашчылу ўдалося ўцячы, але на тэрыторыі Украіны яго арыштавалі і трымалі ў адной з крэпасцяў. Пакуль вялося следства, лідар паўстанцаў захварэў і памёр.

**1979.** Памёр Канстанцін Сіманаў, расійскі пісьменнік. Пасля крэмацыі яго прах быў развеяны каля Магілёва над Буйніцкім полем, пра бітву на якім Сіманаў пісаў у рамане «Жывыя і мёртвыя».

**1994.** Пачалося першае святкаванне Дня беларускага пісьменства і друку. Часцей за ўсё яго сталіцай быў Полацк — тройчы.

### 29 жніўня

**1950.** У вёсцы Вяценеўка Слонімскага раёна на Гродзеншчыне нарадзіўся Леанід Мальцаў, двойчы міністр абароны Беларусі (у 1996–1997 гадах і ў 2001–2009 гадах). Цяпер — на чале Інстытуту дзяржаўнай службы Акадэміі кіравання пры прэзідэнце.

**1939.** Лётчык Сяргей Грыцавец, ураджэнец Баранавіцкага раёна, атрымаў другі раз званне Героя Савецкага Саюза. Ён стаў першым, хто быў такім чынам уганараваны двойчы.

### 30 жніўня

**1954.** У пасёлку Копысь Аршанскага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся Аляксандр Лукашэнка. Пазней ён перанёс дату свайго нараджэння на дзень пазней.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347 52 81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1344

Падпісана да друку 23.08.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.